


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 13 (3124) Год LXI Беласток, 27 сакавіка 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Ураджэнцы Беласточчыны

## — удзельнікі беларускага нацыянальнага руху ў 1917-1921 гг.

У 2018 г. беларуская грамадскасць будзе ўрачыста і, спадзяемся, годна і самавіта святкаваць 100-я ўгодкі з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі — Акт 25 Сакавіка. Зразумела, што гэтая падзея павінна быць адзначана навуковай супольнасцю Беларусі і беларускай дыяспарай належным чынам: новымі аналітычнымі даследаваннямі, грунтоўнымі археаграфічнымі выданнямі. Ясна, што пра гэта трэба клапаціцца ўжо цяпер. Прынамсі, было б вельмі добра скласці і выдаць энцыклапедычны даведнік «Дзеячы беларускага нацыянальнага руху», у якім павінны быць належным чынам адлюстраваны жыццё і дзейнасць тых дзеячаў, што стаялі ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці.

Упэўнены, што ўраджэнцы Беласточчыны ў гэтым выданні займуць належнае месца. Жыццё не стаіць на месцы: праца ў архівах Беларусі і суседніх краін па дадзенай тэматыцы не толькі дадае навукоўцам новыя факты з жыцця і чыннасці ўжо вядомых асоб, але і адкрывае нам зусім новыя постаці ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху.

**Сялянская дачка, солтыс, вучыцелька, паэтка...**

Імя **Веры Маслоўскай-Карчэўскай** (урожданая Матэйчук, 1896-1981), беларускай паэткі і грамадскай дзеячкі, добра вядома беларускім даследнікам на Беласточчыне. Пра яе пісалі Юры Туронак, Мікола Гайдук, узгадвалі іншыя аўтары ў агульным кантэксце гісторыі беларускага палітычнага і культурніцкага руху ў гэтым рэгіёне. Але новыя дакументы дазваляюць трохі па-новаму асэнсаваць гэтую гераічную асобу, жыццё і дзейнасць якой заслугоўвае напісання асобнай кнігі, тым больш што сёлета адзначаюцца 120-я ўгодкі з дня яе нараджэння. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва выяўлены яе жыццяпіс, напісаны ў 1923 г. Будучы вязніцай па беластоцкім працэсе «45-ці» Вера Маслоўская ў кастрычніку 1923 г. здолела перадаць з-за крат на волю сваю аўтабіяграфію разам з нізкай вершаў дзеля апублікавання ў віленскай газеце «Змаганне». Але 31 студзеня 1924 г. газета была зачынена польскімі ўладамі і рукапіс праз давераных людзей быў перададзены Вацлаву Ластоўскаму ў ковенскі часопіс «Крывіч». Але і там публікацыя па нявысветленых прычынах не адбылася. У дадзеным артыкуле мы факусіруем увагу на ваенным перыядзе жыцця паэткі — 1914-1921 гадах. Намі таксама выяўлена ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе «Часовы Беларускі нацыянальны камітэт» анкета з біяграфічнімі дадзенымі паэткі, запоўненая 18 красавіка 1920 г. з мэтай атрымання пасады павятовага інструктара Часовага беларускага нацыянальнага камітэта ў Менску. Яна таксама мае значную фактаграфічную цікавасць.


■ Вера Маслоўская-Карчэўская

Ураджэнка в. Агароднічкі, што каля м. Супрасль тагачаснай Дайлідскай воласці Беластоцкага павета Вера Матэйчук пачатковую адукацыю атрымала ў мясцовай аднакласавай царкоўнай школе пісьменнасці. Пазней вучылася ў Супральскай двухкласавай жаночай школе, адтуль у 14-гадовым узросце сышла — ад навукі яе адарваў бацька, бо «ведама, як старшая дачка ў гаспадарстві патрэбна». Фактычна два гады яна не вучылася і самастойна займалася самаадукацыяй. Факт здачы экстэрнам дзяржаўнага іспыту ў Свіслацкай расійскай семінарыі на атрыманне звання настаўніцы ў аўтабіяграфіі не ўзгадваецца. Акрамя ўмення чытаць і пісаць па-расійску дзяўчына, дзякуючы маці, добра ведала нямецкую мову. «Могучы чытаць, — успамінала яна, — я чытала кніжкі... найбольш мяне занімала, то жыццё і змаганне вялікіх і гераічных людзей, якія змагаліся за правы пакрыўджанага беднага Народу. Чытаючы такія кніжкі, я задумалася і так моцна, што сядзела па-доўгу ў такіх думках, пакуль хто не выводзіў мяне з думак, а выводзіў мяне найчасцей мой родны бацька, які казаў, што з кніжак я хлеб есці не буду... О, як мне тады балела душа, і які мне быў і горкі хлеб працёўны... Ідучы ў поле я брала з сабою кніжку і пры магчымасці чытала і думала, а сваімі думкамі не мела з кім падзяліцца».

З пачаткам Першай сусветнай вайны, пад уплывам афіцыйнай прапаганды Вера загарэлася пайсці на фронт у якасці сястры міласэрнасці: «Была я ў хаўрусе Чырвонага Крыжа, каб паступіць сястрою міласэрдзя, але мне ўсюды адказвалі, бо не мела „Свидетельства" аб аканчанні гімназіі. Да таго мне хацелася служыць Народу, што я рашуча пастанавіла тайком паехаць у рускую чынную армію, пераадзеўшыся ў мужчынскую вопратку і паступіць санітарам, каб верна і шчыра служыць гаротніку-салдату. Аднака ж так не было, бо мне перашкодзіла мая вялікая міласць да маёй роднай матулькі. Я засталася і жыла пакуль не прыйшлі немцы».

Веданне дзяўчынай нямецкай мовы ацаніла мясцовая акупацыйная адміністрацыя. Тамтэйшы нямецкі гаўптман пры аб'ездзе навакольных ад Агароднічкаў вёсак заўсёды браў з сабой Веру ў якасці тлумача, а ў чэрвені 1916 г. прызначыў яе солтысам у роднай вёсцы. На гэтай пасадзе яна праслужыла 15 месяцаў. Прызначэнне маладой жанчыны няхай і на нізавую адміністрацыйную пасаду можна смела лічыць першым прэцэдэнтам у найноўшай гісторыі Беларусі. Гэта стала вынікам вымушанай «жаночай мабілізацыі» з-за адсутнасці на вёсцы дзейсных мужчын, забраных у войска ці падаўшыхся ў бежанства.

У верасні 1917 г. той жа гаўптман паслаў яе на бясплатную вучобу ў Свіслацкую беларускую настаўніцкую семінарыю. Чатыры месяцы навучання ў Свіслачы яна ўспамінала добрымі словамі: «Пазнаёміўшыся з беларускай культурай і прыдбаўшы многа пазнання ад добрых і шчырых сыноў Беларусі нашых лектараў, як то паны Баляслаў Кваціньскі і Баляслаў Пачобка, я так пакахала сваю Бацькаўшчыну з яе людам і яе прыгожую мову, што пасвяціла ўсё свае жыццё маёй многапакутнай Бацькаўшчыне і працоўнаму люду». Пасля заканчэння семінарыі Матэйчук была накіравана настаўніцай у беларускую пачатковую школу ў в. Грабавец Арлянскай воласці Бельскага павета, дзе адпрацавала да лета 1919 г.

Потым была грамадска-культурная праца ў Грамадзе беларускай моладзі ў Горадні, вучоба на Першых Віленскіх беларускіх настаўніцкіх курсах, вымушаны пераезд у Менск з-за пагрозы быць арыштаванай польскай уладай. З лістапада 1919 г. Вера настаўнічала ў адной з менскіх школ, арганізавала і ўзначаліла «Гурток беларускіх кабет, дзеля помачы беларускім ваякам» у Менску, а пазней Цэнтральны гурток беларусак. Гэта былі адны з першых нацыянальных жаноцкіх арганізацый у Беларусі.

Анкета з біяграфічнымі дадзенымі В. Матэйчук таксама дапаўняе яе біяграфію новымі вельмі істотнымі фактамі. Напрыклад, звяртае тут увагу 4-ы пункт анкеты «Рэлігія», дзе В. Матэйчук, хрышчоная ў праваслаўнай царкве, так вызначала сваю канфесійную прыналежнасць: «Ні праваслаўная, ні каталічка, а прыхільніца уніі». Пачынаючы з 1917 г., відаць пад уплывам выкладчыка Свіслацкай

працяг ☞ 10



## Зварот да Беларускага Народу

***Дарагія Суродзічы,***

***98 гадоў таму — ранічкай 25 сакавіка 1918 года — на нашай зямлі адбыўся цуд: паняволены, зьняможаны вайной беларускі народ заявіў, што „ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай вольнай дзяржавай".***

*Сёньня Беларусь жыве!*

*Жыве, дзякуючы рашучасьці нашых продкаў у 1918 годзе, але таксама дзякуючы жыцьцяздольнасьці кожнага з нас!*

*Дваццатае стагодзьдзе было адным з найстрашнейшых у гісторыі чалавецтва, і асабліва моцна пацярпеў наш край. Мы вытрымалі дзьве чужыя вайны, шматлікія спробы генацыду нашага народу — высылкі, расстрэлы, дыктатуры, выгнаньне traціны нашага народу ў замежжа. Чужакі нішчылі нашую прыгожую мову, нашую шматвяковую культуру, нашую веру, нашае пачуцьцё годнасьці. Нягледзячы на ўсё гэта, мы выжылі. Мы жывём, і жыве Беларусь!*

*Дарагія суродзічы, прыпамінаю цяжкія часы, каб вы не зьнеахвоціліся. Калі мы часам робімся больш асьцярожнымі, ці памяркоўнымі, гэта таму, што адчуваем, што нам трэба іх перажыць.*

*Сёньня, аднак, хачу яшчэ раз выказаць вам сваю веру, што мы дасягнем тае лепшай будучыні, пра якую мы марым. Пацьверджаньне нашай моцы бачым у зусім нядаўняй гісторыі — калі 25 жніўня 1991 году беларусы здолелі скарыстаць шанец і адновілі Незалежнасьць, зьдзейсьніўшы мару пакаленьняў. І вось ужо чвэрць стагодзьдзя наш край незалежны — хаця ўсё яшчэ не свабодны.*

*Але прыйдзе час, калі будзем сапраўды той незалежнай, вольнай дзяржавай, пра якую гаварылі нашыя Дзяды, час, калі наш край далучыцца да сям'і заможных і паважаных еўрапейскіх народаў. Мы даказалі, што мы вартыя гэтай павагі.*

*Жадаю вам сёньня мужнасьці і вытрываласьці. Мы яшчэ пабачымся ў вольнай Беларусі. Моцна веру ў гэта, і хачу, каб кожны з вас у гэта верыў.*

***Жыве Беларусь!***

***Івонка Сурвілла,***
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Сакавік 2016*

9 770546 196000



# Рэдкая птушка даляціць...

Здарылася мне тыдзень таму пабываць у заходнебеларускім Брэсце. Там на вуліцы пісьменніка Мікалая Гогаля, якога дзеляць паміж сабой украінцы і расейцы, усталяваны не толькі бюст літаратурнаму класіку, але і шэраг скульптурных помнічкаў ці кампазіцый паводле матываў ягоных вядомых твораў. Такая літаратурна-гогалеўская вуліца. І хоць незабыўны аўтар „Мёртвых душ" ніколі ў Беларусі не жыў і дачыненне мае да нашай культурнай спадчыны хіба што ўскоснае, такі падыход куды лепшы, чым паўсюднае ўганараванне ў нашых гарадах розных савецкіх пагранічнікаў ці тым больш энкавэдыстаў. Да ўсяго літаратурны класік — на тое ён і класік, каб быць актуальным і праз паўтара стагоддзя.

Які ж новы беларускі не любіць хуткай дарогі ў Дразды! Аднак рэдкі чыж даляціць у нас да сярэдзіны Свіслачы. Прадпрымальнікам нашай краіны зараз не пазайздросціш. Сёння Чыж з Сабалёў, заўтра — які-небудзь стрыж з гарнастаевічаў... Здавалася б, навошта? Птушкі то не драпежныя, свойскія, з рукі кормленыя, ды і яйкі заўсёды неслі залатыя. Але, па-першае, нельга адхіляцца ад Галоўнага куратніка ні на паўкрыла. А па-другое, ва ўмовах нарастаючага гаспадарчага крызісу для народу вельмі патрэбныя такія паказальныя пасадкі ў клетку. На тое ён народзец (слоўца, дарэчы, палітычны класік сучаснасці, свядома ці не, пазычыў якраз у Гогаля!) чакае здаўна. Вера ў добрага і справядлівага цара павінна падмацоўвацца і сілкавацца ўяўным змаганнем з карупцыяй і злоўжываннем. Так што цяпер усе чакаюць — на каго наступнага абрынецца карная ўладная дзясніца. Час такі, асабліва гогалем не паходзіш. Вось загадае, самы ведаеце хто, сваім шматлікім вурдалакам: „Падыміце мне векі!" — і пакажа ўказальным пярстом на чарговую ахвяру. У якой тут царкве ратавацца, чым рытуальна-ратавальнае кола акрэсліваць...

Але як казаў той жа Гогаль, колькі ваўка не кармі — усіх ласёў запаведніка на яго не спішаш. Заробкі ў валютным эквіваленце цэлы час падаюць, а параўнанне адпаведных паказнікаў з суседзямі высвечвае яскравую карцінку. Прыкладам у Польшчы сярэдні заробак жыхароў зараз складае 1 044 долары. А ў Беларусі — толькі 328 (!). Дык гэта сярэдні, які складаецца з заробкаў агромністай арміі разнастайных „сілавікоў", процьмы шматлікіх чыноўнікаў, ідэолагаў і кантралёраў. А колькі зарабляюць звычайны лекар у шпіталі, настаўнік у школе, рабацяга на заводзе? Ды ёсць яшчэ порах у парахаўніцах дзяржаўных баюноў-ідэолагаў, вабіць людзей тэлевізійная манілаўшчына.

А сага з падвышэннем пенсійнага ўзросту стала ўжо сапраўднай песняй, хітом бягучага года. Гогалеўскі Чычыкаў скупляў „мёртвыя душы", а цяперашнія чыноўнікі Беларусі збіраюцца плаціць пенсіі хіба толькі тым, хто ўжо з сырой зямлёй шлюб узяў. Асабліва, што датычыць мужчын. Можа сярэдні век прадстаўнікоў моцнай паловы апошнім часам моцна ўзрос? Паводле афіцыйных статыстычных дадзеных — у сярэднім мужчыны ў Беларусі жывуць каля 67 гадоў. Адзнака пенсійнага ўзросту праз некалькі гадоў вырасце да 65 гадоў. Колькі ім застанецца лавіць асалоду жыцця — арыфметыка простая і празрыстая як сляза дзіцяці. А можа ровень здароўя так скокнуў угару, што Самы галоўны сказаў: „Мужык у шэсцьдзясят гадоў — гэта конь, на якім можна яшчэ гараць, і плугам не ў адзін корпус, а зачапіць тры — і пацягне". Вось такая птушка-тройка па-беларуску. У іншага класіка адзін мужык двух генералаў пракарміў — то чаму ў нас не можа?! А зямля ж у нас такая, тут зноў паводле Гогаля: калі з вечара пасадзіць аглоблю — то з раніцы вырасце тарантас. Але паводле іншай народнай мудрасці — ад работы і коні дохнуць. Што тут ужо казаць пра чалавека. Вось не любіць наш народзец сваёй смерцю паміраць, дык трэба яму паспрыяць.

Так і хочацца пасля ўсіх гэтых назіранняў выславіцца паводле літаратурнага класіка: „Куды ты паўзеш Беларусь? Дай адказ, хоць не адрасу!". Няма адказу...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Палец для «це»



Я не маю нічога да малпаў. Гэтак жа, як і да людзей. Хоць часам, чытаючы карты крывавай гісторыі чалавецтва, стаўлю вышэй агістарычнасць малпаў ад марнага трыумфалізму чалавека. Не грэбуючы генетычным сваяцтвам абодвух, я лічу, аднак, што заява, згодна з якой чалавек прыходзіць ад малпаў, з'яўляецца адурманьваючым спрашчэннем. Так як эвалюцыйнае дрэва, якім хочацца ўбачыць складаную логіку эвалюцыйных працэсаў, здаецца быць шкодным разумовым ярлыком, які прыводзіць да трывалых непаразуменняў, так і ахвота ўбачыць на таполі на абочыне дарогі супольную галіну, з якіх выраслі малпа і чалавек, не мае сэнсу. Малпа гэта малпа. Чалавек з'яўляецца чалавекам. Іншая справа, што апошні часта паводзіць сябе як прымітыўныя продак першай. Але гэта іншая справа.

Нават калі навучыць малпу як уключыць камп'ютар, дык яна, верагодна, выкарыстае яго ў рэвалюцыйным на яе думку спосаб, значыць, паб'е ім галаву свайго саперніка ў статку. Бо малпа гэта малпа, значыць, стварэнне эвалюцыйна адсталае, таму на жывёльны спосаб нецярплівае і схільнае да гвалтоўных і экстрэмальных актаў. Толькі што ў чалавеку захаваліся рэшткі гэтай жывёльнай кампульсіўнасці. Тое, што адбываецца сёння ў інтэрнэце, на самой справе нагадвае рэвалюцыю малпаў. Мы выкарыстоўваем інтэрнэт таксама эфектна, як малпа камп'ютар. Разбіваем ім свае галовы, але зусім не для таго, каб навесці там парадак думак ці вярнуць адпаведную іерархію эмоцый, але для таго, каб раскалоць чэрап антаганістам, выняць іх скрываўленыя мазгі і расчавіць чаравікам. Што з намі робіцца? Адкуль бярэцца гэты імпэт — неназваны, непрадказальны, які эфектам даміно схіляе амаль кожнага інтэрнэт-карыстальніка выказваць негатыўныя эмоцыі, непрадуманыя думкі, неабгрунтаваныя меркаванні? Ці маем мы справу ў інтэрнэце з эвалюцыяй несвядомых свайго гневу мас — большасці адкінутых, маргінальных, занядбаных, пакінутых самім сабе адчайных людзей, ці толькі са сляпой лютасцю інвалідных у сваім адчужэнні асоб: інтэрнэтных кратоў, фейсбукавых караедаў, твітарных звычайных мядзведак? Нарцысаў і эгацэнтрыкаў? Некрытычных эгаістаў? Самалюбаў-разумнікаў з фрагментарнымі ведамі ўзятымі з Вікіпедыі? Невукамі?

Я прызнаюся, што заглядваю з вялікім нежаданнем на сайты сацыяльных сетак. Усё менш і менш там дыскусій, штораз менш змястоўнай палемікі, усё больш і больш лаянкі, паклёпаў, абраз, вульгарных эпітэтаў. Фактычна, яшчэ некалькі гадоў таму, больш-менш да 2005 года, пакуль выбухла ГП-ПіСная польска-польская вайна, у інтэрнэце абавязваў пэўны савуар-віўр, няпісаная канвенцыя добрых паводзін, бонтону. Так званы «тролінг» не адабраўся. Хоць чалавека, які выказваўся вульгарна, не называлі непасрэдна грубым хамам або вырадкам, але шырока распаўсюджаная анафема маўклівай адмовы павінна была быць для яго настолькі дасціпным, як балючым урокам. Тролінг у цяперашні час у модзе. Пошласць стала нормай. Інтэрнэт рэвалюцыянізаваўся. Польска-польская вайна страціла контур ідэалагічнай ці палітычнай спрэчкі, размываючыся ў бязэзместавым верашчанні падобных адзін на аднаго варвараў. Зусім нядаўна, калі выдатная спецыялістка па этыцы, філосафка і прафесарка Варшаўскага ўніверсітэта Магдалена Сьрода напісала на сваім профілі ў фейсбуку, з заклапочанасцю адзначаючы, што на яе думку будучыня Польшчы явіцца змрочнай, абвінавачваючы ў гэтым асабіста Яраслава Качынскага, старшыню Права і справядлівасці, сустрэлася з непераборлівым нападам інтэрнэт-карыстальнікаў. Прывяду толькі адно ананімнае — вядома — і не самае вульгарнае выказванне (арыгінальная арфаграфія): **„ŚRODA — ja mam dla cie tylko środkowy palec (...)!"**.

Ну вось і маем тое СПРАШЧЭННЕ!

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Сакрэтны ўпаўнаважаны

Да канца мінулага года ўпаўнаважаным падляшскага ваяводы па нацыянальных і этнічных меншасцях быў Мікалай Мантур, наміняваны на гэтую пасаду папярэдняй кіруючай кааліцыяй. Пасля змены ўлады і замене ваяводаў новым ваяводам на Падляшшы стаў Багдан Пашкоўскі, а Мікалая Мантура ў студзені замяніў Раман Чэпэ. Справы нацыянальных і этнічных меншасцей у сферы яго абавязкаў мелі быць адным з некалькіх. І так мела быць надалей, як запэўнівала мяне яшчэ ў канцы студзеня прэс-сакратар ваяводы Пашкоўскага Анна Ідзькоўская. Тым часам у час пасяджэння парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях 9 сакавіка, прысвечанага дзеянням, якія рабілі ў 2015 годзе ўпаўнаважаныя ваяводаў па справах нацыянальных і этнічных меншасцей, я выпадкова даведаўся, што Падляшша мае, аднак, такога ўпаўнаважанага, выключна па справах меншасцей, і гэта не Раман Чэпэ. Старшыня Камісіі Данута Петрашэўская прывітала ўпаўнаважаных і іншых асоб, якія адказваюць за пытанні меншасцей у ваяводскіх управах. Яна пералічыла прадстаўнікоў з Сілезскага, Апольскага, Падкарпацкага, Вялікапольскага, Лодзінскага і Мазавецкага ваяводстваў. З Падляшша нікога не прывітала. Назіраючы пасяджэнне камісіі ў прамым эфіры па інтэрнэце, я напісаў тэкставае паведамленне аднаму з двух падляшскіх дэпутатаў, членаў камісіі па меншасцях Роберту Тышкевічу (другі гэта Тамаш Цімашэвіч): «А дзе падляшскі ўпаўнаважаны, дзе ён наогул?». Я ўбачыў, як дэпутат прачытаў маё пытанне і падаўся да прысутнага на пасяджэнні камісіі Юзафа Ружанскага, дырэктара дэпартамента рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных ды этнічных меншасцей МУСіА, які пасля даваў справаздачу па тэме сустрэчы. Праз некаторы час я атрымаў ад дэпутата Тышкевіча адказ: «Войцех Пшыгоньскі — прызначаны, але адсутнічае». Вось табе сюрпрыз — падумаў я, і пачаў пытаца ў самога сябе, чаму нічога пра назначэнне Войцеха Пшыгоньскага я, як журналіст «Нівы», не ведаю. Я пазваніў некалькім асобам, і аказалася, што не толькі я, але і іншыя беларускія журналісты з іншых рэдакцый таксама аб гэтым назначэнні не маюць ніякай інфармацыі. Больш цікава, нават кіраўнікі беларускіх арганізацый, у якіх я спытаў пра гэта, таксама не ведалі. Чым хутчэй па тэлефоне я папрасіў у прэс-сакратара ваяводы растлумачыць: калі быў назначаны Войцех Пшыгоньскі, хто ён, чаму арганізацыі меншасцей і іх сродкі масавай інфармацыі не былі праінфармаваныя аб яго назначэнні. Пачуў: «Я мела толькі загад, каб гэтую інфармацыю размясціць на сайце нашай установы».

І фактычна, пад датай... 11 лютага можна на ім прачытаць паведамленне аб прызначэнні і запіску: «Войцех Пшыгоньскі з'яўляецца беластачанінам, яму 59 гадоў. Скончыў факультэт грамадскіх навук Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (сацыялогія) і Люблінскую школу бізнесу. Працаваў, між іншым, асістэнтам на факультэце сацыялогіі Універсітэта ў Беластоку, быў дырэктарам Маладзёжнага дома культуры ў Беластоку, а таксама вёў свой бізнес (вучэбна-адукацыйнага профілю)». На іншай са старонак установы ўказаны нумар яго тэлефона і адрас электроннай пошты ды ў сямі пунктах запіска аб яго задачах і паўнамоцтвах, у тым ліку пра падтрымку арганізацый і суполак нацыянальных і этнічных меншасцей, з асаблівым акцэнтам — як здаецца — на ромскую меншасць.

Спробы дагаварыцца на інтэрв'ю для «Нівы» з упаўнаважаным Пшыгоньскім пасля больш чым месяца з моманту яго назначэння аказаліся безвыніковымі. Калі я ў яго спытаўся, чаму ён не прысутнічаў у пасяджэнні парламенцкай камісіі 9 сакавіка, адказаў мне нечаканым пытаннем: «А я павінен быў быць на ім?».

Падчас апошняй размовы па тэлефоне (16 сакавіка) ён унікліва сцвярджаў:

— Можа, паразмаўляем пасля Вялікадня (каталіцкага — М. Х.). Я абяцаў інтэрв'ю Радыё Беласток (гаворка пра журналіста перадачы «Пад знакам Пагоні» — М. Х.) і Рацыі, але Рацыю хіба адмяню. Мушу спачатку дамовіцца з усімі меншасцямі, дамовіцца аб даце сустрэчы з міністэрствам... Не можа выглядаць так, што я ў першую чаргу бегаю па СМІ, прытым толькі па беларускіх.

11 сакавіка ўпаўнаважаны Пшыгоньскі афіцыйна з'явіўся на гала-канцэрце фестывалю беларускай песні, арганізаваным БГКТ. Ані са старшынёй Таварыства Янам Сычэўскім, ані з яго намеснікам Васілём Сегенем не абмяняўся ён нават адным словам. Рацыі, але і Радыё Беласток у рэшце рэшт адмовіўся даць інтэрв'ю, тлумачыўшы гэта так як і «Ніве».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Фантастычныя фільмавыя фізікі Гайнаўскага белліцэя

**У Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы чатырох белліцэістаў Ганна Хомчук, Арон Марчук, Анна Несцярук і Шымон Ручынскі стварылі фільмавы калектыў «Фантастычныя фільмавыя фізікі», апекуном якога стаў настаўнік фізікі Дар'юш Мусюк. Яго члены прыступілі да агульнапольскага фільмавага конкурсу «Зрабі стаўку на Сонца», арганізаванага Фондам Банка аховы асяроддзя, і стварылі кароценькі адукацыйны фільм «Адзін», які рэкламуе выкарыстанне аднаўляльнай энергіі, а канкрэтна сонечных калектараў. У першым этапе конкурсу гайнаўскія белліцэісты занялі першае месца і зараз змагаюцца за першынство ў другім этапе, у якім камісія будзе ацэньваць відэаролікі і іх распаўсюджанне. Белліцэісты стараюцца як найлепш разрэкламаваць свой фільм «Адзін», у якім выступілі дырэктар Яўген Сачко і ліцэісты.**

— Я цешуся, што моладзь паказала свае ўмеласці і прафесійны падыход да стварэння відэароліка «Адзін». Здабыты вопыт працы над фільмам спатрэбіцца нашым вучням як падчас адукацыі, так і ў далейшым жыцці. Для мяне выступленне перад кінакамерай, паводле сцэнарыя, было новым, але цікавым выклікам, — сказаў дырэктар Яўген Сачко.

— Наш фільм паказвае два альтэрнатыўныя светы, дзве цывілізацыі, якія могуць быць у нас за 50 гадоў. Гэта ад усіх нас, пражываючых на Зямлі, залежыць, які свет выбярэм, ці будзем ахоўваць прыроду і карыстацца аднаўляльнымі крыніцамі энергіі, ці спрычынімся да знішчэння натуральнага асяроддзя, — заявіла белліцэістка Ганна Хомчук.

— Супольнымі сіламі мы знялі адукацыйны фільм «Адзін» на конкурс «Зрабі стаўку на Сонца». Відэаролік прапагандуе ідэю выкарыстоўвання людзьмі дзеля аховы навакольнага асяроддзя аднаўляльных крыніц энергіі, у нашым выпадку сонечных калектараў. Мы рэкламуем сонечныя калектары, танныя, простыя ў абслугоўванні і мантажу, якія даюць вялікія ашчаднасці як індывідуальным карыстальнікам, так і ўсяму грамадству, — сказаў Шымон Ручынскі.

Фотаматэрыял Шымона Ручынскага



Калектыў белліцэістаў «Фантастычныя фільмавыя фізікі» — злева: Арон Марчук, Ганна Хомчук, апякун Дар'юш Мусюк, Анна Несцярук і Шымон Ручынскі

— Я пачаў ствараць фільмавыя анімацыі яшчэ ў пачатковай школе і працягваў удасканальваць свой варштат у белгімназіі. Многа я чытаў, прымаў удзел у майстар-класах па мультыплікацыі. Апошнімі гадамі ствараў я больш сур'ёзныя анімацыі і хачу ўдасканаліць свае ўмеласці ў гэтым напрамку, а нават хацеў бы спалучыць сваю будучыню з фільмам, калі мне гэта ўдасца. Я звярнуўся да дырэктара Яўгена Сачко з прапановай стварыць фільмавы кружок у нашай школе, а дырэктар запрапанаваў мне прыступіць да конкурсу «Зрабі стаўку на Сонца», падчас якога мог бы я выкарыстаць свае фільмавыя ўмеласці і стараўся максімальна выкарыстаць свае ўмеласці і вопыт.

Ганна Хомчук удакладніла, што ў фільме выкарыстана частка яе музыкі, якую выконвала на фартэпіяна. Яна займалася таксама арганізацыйнымі справамі конкурснага праекта. Ідэю паказаць два альтэрнатыўныя светы прыдумаў Шымон Ручынскі. Паводле яго прапаноў Анна Несцярук напісала сцэнарый фільма, займалася рэквізітамі і сцэнічным афармленнем. Арон Марчук, якога дом з калектарам відаць на здымку далучаным да тэксту, займаўся, між іншым, падборкай музыкі, на выкарыстанне якой трэба было атрымаць дазвол, так як і атрымаць згоду бацькоў на ўдзел вучняў у фільме.

— Стварэнне кароценькага відэароліка было для нас добрай гульнёй, а ўзнагарода, якую можам здабыць, гэта другарадная справа. Мы цешымся, што здабылі арганізацыйны і фільмавы вопыт. Мы хочам паказаць людзям важнасць аховы натуральнага асяроддзя на нашай планеце. Ад кожнага з нас залежыць, якую мы пакінем па сабе Зямлю. Аховай прыроды можам спрычыніцца да таго, што будучыя пакаленні будуць маглі жыць ва ўмовах набліжаных да сённяшніх. У фільме мы востра паказваем, якія два асноўныя выбары можна зрабіць і якой Зямля можа быць за 50 гадоў ды заахвочваем людзей ахоўваць асяроддзе. У рамках конкурсу можна было прамаваць выкарыстанне розных аднаўляльных крыніц энергіі, але мы рашыліся прапагандаваць сонечныя калектары, якія перш за ўсё прадукуюць цеплаэнергію, — распавядалі члены фільмавага калектыву «Фантастычныя фільмавыя фізікі». У фільме «Адзін» здымаліся дырэктар белліцэя Яўген Сачко, Наталля Мусюк, Марыя Марчук, Іаанна Хомчук, Мікола Кэчынскі, Катажына Несцярук, Лукаш Ручынскі, Іаанна Сахарчук і Шымон Вінярскі.

— Вучні працавалі самастойна і рабілі гэта вельмі ўдала, а я стараўся наглядаць за іх працай, кантактаваўся з арганізатарамі конкурсу, высвятляў усе недаразуменні, каб наш фільм не страціў на ацэнцы і не быў адкінуты. Таму так важныя былі дазволы бацькоў і іншыя дакументы, якія трэба было даслаць арганізатарам конкурсу. Фільм не толькі рэкламуе аднаўляльныя крыніцы энергіі, але таксама з'яўляецца прамоцыяй здольнай моладзі і нашага беларускага ліцэя. Я дзякую акцёрам, якія выступілі ў адукацыйным фільме, усім асобам, якія дапамаглі яго стварыць, а асабліва калектыву «Фантастычныя фільмавыя фізікі» за ідэю фільма, за цяжкую працу, часам нават за кошт вучобы. Задача школы — ствараць магчымасці выкарыстання вучнямі сваіх зацікаўленняў. Прыклад гэтаму — фільмавы калектыў у нашай школе, — сказаў настаўнік фізікі Дар'юш Мусюк. — Фільм «Адзін» і яго прамоцыя будуць ацэньвацца конкурснай камісіяй. А з красавіка па чэрвень інтэрнаўты будуць галасаваць на паасобныя конкурсныя фільмы і вылучаць пераможцаў таксама ад свайго імя.





Адукацыйны відэаролік «Адзін» спачатку паказвае знішчаны людзьмі свет, да якога давялі масавае знішчэнне асяроддзя і вайна. Пазней, у другім свеце, бачым прыгожы лес, якім радуюцца дзеткі, моладзь і прыроду, якую ўдалося захаваць, дзякуючы выкарыстанню аднаўляльных крыніц энергіі.

— Мы рашыліся паказаць два альтэрнатыўныя светы, бо, моцнымі прыкладамі хутчэй можна пераканаць людзей да ахоў асяроддзя. Спачатку бачым людзей, якім не стае харчавання. Чалавек у процівагазе рашаецца забіць птушачку, каб яе з'есці. Сумныя людзі сядзяць каля вогнішча і слухаюць старэйшага чалавека (у яго ролі выступіў наш дырэктар Яўген Сачко), які памятае жыццё перад вайной. Кажа ён, што на Зямлі скончыліся крыніцы энергіі, а вайна за іх апошнія залежы знішчыла нашу планету. У другой частцы фільма наш дырэктар кажа, што не мусіла так быць, паколькі выкарыстанне аднаўляльных крыніц энергіі дазволіла захаваць ад знішчэння навакольнае асяроддзе, — коратка расказала змест фільма Ганна Хомчук.

Правёў ён размову з настаўнікам фізікі Дар'юшам Мусюком, які запрапанаваў Шымону стварыць калектыў для рэалізацыі конкурсных задач.

— Я сабраў калектыў, які моцна заангажаваўся ў праект. Каля двух месяцаў працягваліся падборка тэмы і распрацоўка зместу фільма. Некалькі тыдняў мы рыхтаваліся да здымання сцэн для адукацыйнага роліка, які рэкламуе выкарыстанне аднаўляльных крыніц энергіі. Дзякуючы ангажаванасці калектыву ўдалося паспяхова завяршыць працу. Я стварав акцёрскі фільм упершыню і мог многаму навучыцца. Дырэктар Яўген Сачко згадзіўся выступіць у фільме. Ён падыходзіў да нашага сцэнарыя па ўзросце, бо ў фільме яго герой распавядае пра тое, што было 50 гадоў таму, — сказаў Шымон Ручынскі. — Мы ў першым этапе конкурсу разлічвалі на месца ў другой дзясятцы і рады, што апынуліся на першым месцы, бо гэта дадало нам энергіі для далейшай працы ў агульнапольскім конкурсе. Ствараючы адукацыйны ролік мы стараліся наблізіцца да прафесійнасці. Я — заўзяты фільмавец, — стаў расказваць Шымон Ручынскі.

— Зараз галоўнай нашай конкурснай задачай з'яўляецца прамоцыя фільма ў месяцы сакавіку, што будзе ацэньвацца конкурснай камісіяй. Наш відэаролік сталі паказваць у інтэрнэце (напрыклад, https://www.youtube.com/watch?v=OyFKkvhJfko). Мы пакрысталіся магчымасцямі прамоцыі фільма на тэлебачанні, радыё і ў прэсе. Заахвочваем паглядзець фільм «Адзін» у інтэрнэце і паінфармаваць аб ім знаёмых, — просяць аўтары Ганна Хомчук, Арон Марчук, Анна Несцярук і Шымон Ручынскі.

Тэкст Аляксея МАРОЗА

# Пісанкі з-над Бобры

У Ліпску з традыцыяй пісання велікодных яек больш за 70 гадоў звязана Крыстына Цеслюк. Не толькі ў наваколлі, але таксама ў Польшчы і многіх краінах свету ведаюць яе характэрныя „малыя мастацкія творы”, якія на Вялікдзень упрыгожваюць святочныя сталы. Крыстына Цеслюк узрастала ў Ліпску, сярод беларускага насельніцтва і прыгожай прыроды ракі Бобры, што паўплывала на яе бачанне свету і вялікую адчувальнасць ва ўспрыманні прыгажосці. Пісанкі Крыстыны Цеслюк уражваюць не толькі мастацкім узроўнем, але таксама адлюстроўваюць спрадвечную абраднасць і культуру гэтай тэрыторыі.

Крыстына Цеслюк вядомая сваім майстэрствам не толькі ў родным Ліпску, але і ва ўсёй Польшчы. Часта ездзіла са сваімі пісанкамі на шматлікія конкурсы і кірмашы па-за межы краіны. Першыя спробы пісання яек былі зроблены ў дзіцячыя гады. У яе сям'і гэтая традыцыя перадавалася з пакалення ў пакаленне. Крыстына Цеслюк памятае першыя ўрокі, якія атрымала ад сваёй бабулі. Таму матывы, якія размалёўвае на яйках, характэрныя гэтаму куточку Беласточчыны. Яе велікодныя яйкі маюць свае назвы, таксама як узоры, а гэта стварае дадатковую аснову для зразумення мясцовага ... Узоры, якія найчасцей паўтараюцца, гэта „басланючкі”, „сабачыя лапкі”, „барылачкі” ці „хвойкі”. Традыцыйныя ліпскія ўзоры Крыстына Цеслюк часта ўзбагачае самастойнымі праектамі.

Усе пісанкі паўстаюць тэхнікай васкавога баціку (растоплены воск наносяць іголкай). Асноўным элементам тэхнікі, якую выкарыстоўвае Крыстына Цеслюк, з'яўляецца „коска”, з якой можа ўкладаць розныя матывы, у асноўным раслінныя і геаметрычныя. Як падкрэслівае спадарыня Крыстына Цеслюк, да вайны пажылыя людзі ніколі не куплялі фарбы. Акрамя цыбульніку, які быў найбольш распаўсюджаным фарбавальнікам яек, выкарыстоўвалі маладое лісце бярозы (давала зялёны колер), шалупінне грэчкі (цёмна-карычневы). Чорны колер атрымлівалі зараней настойваючы разам кару дубу, вольхі, альховых шышак і ржавага жалеза. Найбольш характэрнымі колерамі пісанак з ваколіц вытокаў ракі Бобры былі чорны, чырвоны і зялёны. З часам, калі ў крамах з'явіліся штучныя фарбавальнікі, і колераў пісанак стала больш.



Гледзячы з боку на працу спадарыні Крыстыны здавалася б, што выкананне такіх яек, гэта нескладаны працэс. Нічога больш памылковага. Праца патрабуе вялікага таленту і настойлівасці, але перш за ўсё, як падкрэслівае мастачка з Ліпска, гэта трэба любіць. Сама ўспамінае свае пачаткі як вельмі цяжкія, аднак гэта не знеахвоціла яе да працы. Сёння Крыстына Цеслюк з'яўляецца самай вядомай майстрыхай гэтага віду народнага рукадзелля. Таму тэхніцы ўпрыгожвання велікодных яек вучыць людзей у розным узросце на рознага тыпу майстар-класах, ладжаных музеямі і школамі. Такім чынам зведала амаль усю Польшчу. Аднак, як падкрэслівае мастачка, дзе б яна не заехала, ведае, што яе рэгіён распрацаваў сваю ўласную унікальную тэхніку і ўзоры ўпрыгожвання яек. Таму яе велікодныя „малыя мастацкія працы” выклікаюць цікавасць. Многія з іх трапілі за мяжу: у Англію, ЗША, Беларусь, а нават у Ватыкан. Адмыслова зрабіла яна пісанку для папы Яна Паўла II.

Крыстына Цеслюк вельмі актыўна дзейнічае дзеля захавання культурнай спадчыны Ліпскай зямлі. У 1973 годзе стала сябрам Таварыства народных творцаў. Па яе ініцыятыве быў заснаваны гурток мясцовых майстроў розных прафесій, а ў 2007 годзе ўзнік Музей ліпскай пісанкі і творчасці. Гэта адна з нямногіх такога тыпу ўстаноў у свеце. Самы вядомы музей пісанкі знаходзіцца ў Каламыі на Украіне.

Як падкрэслівае мастачка, асновай працы над пісанкамі з'яўляецца ўспамінанне мінулага. Пры размалёўванні ўзораў прыгадвае яна сваю маладосць, праведзеную ў Ліпску, вяртаецца думкамі да сваёй сям'і, супольных свят, першых спроб упрыгожвання яек, расповедаў сваёй бабулі, прыпамінае ўсе радасці і смакі жыцця ў Ліпску. Пісанне з'яўляецца выяўленнем яе ўспамінаў і вопыту. Згэтуль на яйках сонейка, кветкі, маладыя галінкі. Гэта яе маладосць і ўспаміны застылыя ў душы. Яе жыццёвая містыка і светабачанне. Крыстына Цеслюк — поўная бадзёрасці, нягледзячы на свае восемдзесят гадоў — кажа сціпла пра сябе і сваю творчасць: „Я маю гэта ў крыві, мне хочацца гэта рабіць, і ўсё...”.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**





# Боль успамінаў

Юзэф Варановіч нарадзіўся ў ліпені 1945 года ў пападэльскіх Мінкаўцах, сёння Шудзялаўскай гміны. Другую сусветную вайну ведае толькі з аповедаў свайго бацькі Віктара. Ганарыцца, што пахрысцілі яго менавіта ў касцёле ў Адэльску (цяпер у Беларусі). У Мінкаўцах вайна закончылася ў 1948 годзе, калі вёска вярнулася з саветтаў у Польшчу. Польска-савецкая мяжа ішла кіламетр за вёскай. Потым перасунулі яе паўтара кіламетра ў другі бок.

Спадар Юзэф паказвае мне ксеракопію старонкі шудзялаўскай газеты і царскае „свидетельство о выполнении воинской повинности” ад 1881 года нейкага Осіпа Варановіча з Мінкаўцаў.

Гаварыць пра вайну гледзячы мне ў вочы ён не ў змозе. Бачу яго ўнутраны бой і боль пры кожным сказаным слове. Чую шмат важных, нявыказаных слоў. Прыгнятае страх, перададзены з пакалення ў пакаленне, ад дзеда, прадзеда, страх Другой сусветнай вайны.

— Ці пра жыдоў бацька вам нешта расказваў? — пытаю.

— Не... Мабыць, не, — гаворыць абсалютна без перакананасці.

— З беларусамі жыў я ў добрых адносінах, — мяняе тэму. — У дзевяностых годзе, будучы сакратаром гміны ў Крынках, ездзіў я да іх на Дзень Перамогі. Калі добра папілі і паелі, павезлі нас аўтамабілем у бункеры на васемсотмятроўку — недаступную пагранічную, лясную тэрыторыю па другім баку мяжы ў напрамку Бераставіцы. У часах нашага ваеннага становішча звезлі туды салдат. Там яны чакалі загаду. У бункерах сядзелі адны касавокія з-за Урала. Беларусаў сярод іх не было.



Злева: Віктар Варановіч — полк кавалерыі ў Сувалках

— А пра Армію Краёвую помніце нешта?

— Не, не помню.

— Не было ў вас АК? — пытаю з недаверам.

— Была, прыходзілі з суседніх вёсак, але гэта праўдападобна саланніннікі былі. АК дзейнічала недзе каля Сувалк. Я прынамсі не чуў, каб тут яны заглядалі.

Бацьку спадара Юзэфа, Віктара Варановіча прызвалі ў войска яшчэ да 1 верасня 1939 года. Спярша адправіўся ў сакольскія казармы, пасля ў Люблін, Радам. Пайшоў ваяваць з немцамі. Разведка сказала, што ззаду надыходзяць саветы. Здаліся. Афіцэраў рускія расстралялі зразу, уначы. Звычайных жаўнераў адпусцілі дахаты. Ваявалі сямнаццаць дзён, а дахаты вярталіся паўтара месяца. Поездам даехалі да Саколкі, далей ішлі пехатою ў Номікі, Войнаўцы і Мінкаўцы.



Юзэф Варановіч

Маці спадара Юзэфа пра немцаў кепскага слова ніколі не сказала. Звычайны немец быў як паляк. Інакш выглядала справа з эсэсманамі і ўкраінцамі. Родная хата спадара Юзэфа стаіць пасярэдзіне вёскі. У садзе за гумном немцы сарганізавалі палявы шпіталь. Есці не прасілі, толькі яйкі бралі ад маткі. Узамен частавалі сапраўдным шакаладам. Руския таксама есці не прасілі. Калі немцаў гналі, усе вулеі паразбівалі, так мёду шукалі.

Быў яшчэ брат бацькі, дзядзька Мацей — мінкаўскі солтыс у міжваенны перыяд. За гэта вывезлі яго на сем гадоў у Комі. У 1944 годзе саветы памянялі тактыку. Не забіралі цэлых сем'яў, толькі паасобных віноўнікаў, ворагаў савецкае ўлады. Мацей цяжка хворы вярнуўся ў Мінкаўцы ў 1951 годзе. Памёр год пазней.

— Помню, гэта было на лузе, — кажа спадар Юзэф. — Дзядзька, як заўсёды, сядзеў на сваім стульчыку, пільнаваў авечак. Сказаў толькі, што ў лагеры кожнай ночы чалавек спадзяваўся смерці. Прыйдуць і застрэляць. Больш нічога не сказаў. Тады нельга было гаварыць.

Спадар Юзэф вяртаецца да ксеракопіі фрагмента шудзялаўскай газеты — адзінага запісу сібірскага лёсу сямейнікаў (*Na czas rozważania męki Zbawiciela naszego*, «Nasza Gmina», marzec 2008, s. 16). Дваюродны брат Юзэфа, Генрык Варановіч вершам і прозай піша, між іншым, пра ссылку яго цёткі з мамінага боку Тэафілі Ус, народжанай у Мінкаўцах. Выйшла яна замуж за Нікадэма Урбановіча з непадалёкай Вішнёўкі (сёння ў Беларусі). Нікадэм, добраахвотнік беларуска-літоўскай дывізіі, за ваенныя заслугі ў барацьбе з бальшавізмам быў узнагароджаны тадышнімі ўладамі надзелам 8 гектараў зямлі з распарцэляванага маёнтка над ракой Свіслач. Разам з іншымі ўзнагароджанымі асаднікамі заснавалі там пасёлак Шум. Калі прыйшлі саветы, Нікадэм уцёк з хаты. У лютым, ноччу, забралі яго цяжарную жонку Тэафілю і шасцёра дзяцей. Павезлі эшалонам у Іркуцк. Да выбуху нямецка-савецкай вайны сям'я з Мінкаўцаў пасылала ім пачкі і грошы. Калі ўвайшлі немцы, кантакт парваўся. Найстарэйшы 14-гадовы сын Браніслаў цяжка працаваў у лесе, каб выкарміць шматдзетную сям'ю. Неўзабаве захварэў і памёр. Памерла і яго сястра Алена. Астатняя разам з народжанай у Сібіры наймалодшай дачкой Ядвігай вярнуліся ў 1946 годзе.

**Іаанна ЧАБАН**

# Таямніцы Аўгустоўскай аблавы

У Калеты, Лясную (даўняя назва вёскі — Вулька-Жандовая) ці Баляненты ў Гродзенскай вобласці іншаземец так лёгка не ўедзе. Названыя вёскі размешчаны ў памежнай зоне. Для таго, каб туды дабрацца, неабходны спецыяльны пропуск, таксама для грамадзян Беларусі, якія пастаянна жывуць па-за межамі зоны. Адпаведную заяву трэба асабіста падаць у гродзенскай сядзібе Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Рэспублікі Беларусь, а іншаземец павінен чакаць рашэння некалькі дзён без упэўненасці, што яго атрымае. Якраз у гэтых вёсках яшчэ жывуць сведкі Аўгустоўскай аблавы з ліпеня 1945 г., а яе ахвяры, хутчэй за ўсё, спачываюць у зямлі на беразе блізкага возера Шлямы.

Аўгустоўская аблава («малы Катынь») з'яўляецца найменш раскрытым забойствам палякаў пасля Другой сусветнай вайны. У выяўленых нядаўна гісторыкамі Інстытута нацыянальнай памяці савецкіх дакументах называецца яна «аперацыяй зачысткі лясоў», накіраванай супраць Арміі Краёвай, а таксама літоўскага падполля. Ахапіла яна тэрыторыю 3500 квадратных кіламетраў. У савецкіх дзеяннях прыняло ўдзел каля 40 тысяч салдат. ІНП вядзе следства: вызначае колькасць ахвяр і дакладнае месца іх пахавання. У ліпені 1945 года атрады Чырвонай Арміі і НКУС, пры падтрымцы польскіх войскаў, падпарадкаваных устаноўленаму саветамі ўраду, прачасалі Аўгустоўскую пушчу і прылеглыя да яе тэрыторыі. У выніку дзеянняў часцей 50-й арміі ІІІ Беларускага фронту і 62-й і 64-й дывізій НКУС, пры падтрымцы падраздзяленняў польскіх органаў дзяржбяспекі і мясцовых палявых агентаў, 12-28 ліпеня 1945 года былі затрыманы некалькі тысяч чалавек. Саветы дапускаліся жорсткіх нападаў, рабаванняў, а таксама забойстваў і згвалтаванняў. Арыштаваныя былі дапытаныя, часта жорстка, у спалучэнні са збіцём і катаваннямі. У ходзе даследавання чарговыя асобы вызвалялі дамоў, у той час як групу з амаль 600 чалавек ізалявалі, заключылі ў турму, вывезлі і ў да гэтага часу невядомым месцы забілі.

✣ ✣ ✣

Тамаш Данілецкі, прэс-сакратар беластоцкага аддзела ІНП у размове з «Нівай» кажа:

— У расследаванні гаворка пра 592 ахвяры, але выяўленыя дакументы паказваюць, што не больш чым каля дзвюх тысяч. Мы ведаем гэта з савецкіх дакументаў, у тым ліку з так званых шыфраграм камандуючага СМЕРШам Віктара Абакумава да наркама ўнутраных спраў Лаўрэнція Берыі, раскрытых некалькі гадоў таму Мікітам Пятровым, расійскім гісторыкам і праваабаронцам, віцэ-старшынёю Расійскага таварыства «Мемарыял», даследчыкам сталінскіх злачынстваў. Ад яго мы таксама ведаем, што злачынства магло адбыцца на тэрыторыі Беларусі, недалёка ад мясцовасці Калеты. У 2010 годзе праз Генеральную пракуратуру мы звярталіся ў Рэспубліку Беларусь за прававой дапамогай у правядзенні архіўных пошукаў. Але прыйшла адмова, што гэта супярэчыць асноўным прынцыпам беларускага заканадаўства, што адносна дзеянняў, учыненых на тэрыторыі беларускай дзяржавы, прымяняецца мясцовае заканадаўства і такая дапамога супярэчыла б інтарэсам Рэспублікі Беларусь. Другая заява была ад 2014 г., таксама наконт архіўных пошукаў. Рэакцыя была аднолькавай. Такім чынам, у пытанні пошукаў ахвяр Аўгустоўскай аблавы ў Беларусі мы пакуль не можам зрабіць ніякіх дзеянняў.

— Дакументацыю па Аўгустоўскай аблаве можна знайсці ў архівах Федэральнай службы бяспекі, — сцвярджаў яшчэ ў 2012 годзе Мікіта Пятроў.

Хутчэй за ўсё сярод іх знаходзіцца адпаведнае распараджэнне Іосіфа Сталіна. Мікіта Пятроў:

— Ахвяры Аўгустоўскай аблавы, верагодна, пахаваны на месцы забойства, і там іх магіла. Але я павінен сказаць, што, магчыма, ніколі не ўдасца знайсці дакумент непасрэдна казаўшы пра тое, дзе пахаваны ахвяры, таму што савецкая ўлада не любіла пакідаць такога тыпу дакументаў. Пры правядзенні аблавы палякам не прадставілі якіх-небудзь абвінавачванняў. Калі падчас допыту ўдалося ўстанавіць, што затрыманы з'яўляецца салдатам Арміі Краёвай, то «расследаванне» было спынена, а затым трапляў ён у групу смяротнікаў. Загадзя было вядома, што людзей з АК трэба расстраляць, так што не было ніякай неабходнасці, каб дапытваць іх далей і шукаць нейкія іншыя абвінавачанні. Проста нічога іншага не трэба было ім даказваць. Само знаходжанне ў радах АК або падазрэнне ў сувязях з ёю было ўжо доказам віны.




✣ ✣ ✣

Калеты ляжаць на скрыжаванні беларуска-польска-літоўскай мяжы, над далінай ракі Шляміца, якая выцякае з возера Шлямы, падзеленага польска-літоўскай мяжой. Жыхары Калетаў, Лясной і Балянентаў, расположаных непадалёк Сапоцкіна, гавораць па-польску. Тут да вайны размяшчалася камандаванне 3-й роты батальёна Корпуса памежнай аховы «Сейны». У 1989 годзе ў Калетах правялі эксгумацыю 35 польскіх ваеннапалонных забітых 22 верасня 1939 г. Чырвонай Арміяй. Усе яны былі забіты стрэлам у патыліцу. Забітыя зняволеныя былі пахаваны мясцовымі жыхарамі ў лесе недалёка ад вёскі. 1 кастрычніка 1989 года астанкі салдат, узятыя з пяці магіл, былі ўрачыста перапахаваны на мясцовыя могілкі. Тагачасныя савецкія ўлады не пагадзіліся, каб на мемарыяльнай дошцы на помніку было напісана, хто здзейсніў злачынства. У 2006 г. адна з беларускіх крыніц паведаміла, што «22 верасня 1939 года Чырвоная Армія расстраляла ў Калетах больш за 3 000 польскіх афіцэраў і што 15 верасня 1989 года на месцы расстрэлу ўсталяваны мемарыяльны знак».

У ліпені 2014 г. у ходзе навуковай канферэнцыі, прысвечанай Аўгустоўскай аблаве на Каралеўскім замку ў Варшаве, Мікіта Пятроў сказаў:

— Да сёння мы не можам дакладна вызначыць, дзе яны былі забіты. Дзякуючы праведзеным намі пошукам і даследаванням, удалося нам больш-менш вызначыць, дзе гэтае месца магло б знаходзіцца. Перад тым як арыштаваныя ў аблаве былі забіты, яны былі сканцэнтраваны ў лагеры ў Гібах. Туды паступова траплялі людзі, якіх НКУС вырашыла забіць. Але дзе контрразведка зрабіла гэтае злачынства? З дакумента, апублікаванага 21 ліпеня 1945 г., тэлеграмы Абакумава Берыі, вынікае, што злачынцы мелі намер зрабіць гэта ў лясным комплексе. Няма ні аднаго дакумента, які паказваў бы, як гэта было зроблена, але можам здагадвацца, што гэты план павінен быў здзейсніцца, і можам выказаць здагадку, што гэтак адбылося. Ведаем, што яны зрабілі тое, што планавалі. Ёсць паведамленні аб тым, што аўтамабілі з арыштаванымі з'язджалі з Гіб, а затым вярталіся пустыя. Існуюць розныя сведчанні адносна таго, пасля якога часу машыны вярталіся: ад 45 мінут да паўтары гадзіны. У вышэйзгаданым дакуменце ёсць адна важная інфармацыя: гэта загаловак дакументаў. На саміх тэлеграмах гэтага загалоўка няма. Выступае ён толькі ў архіўным апісанні справы. Ёсць там запіс: «Аперацыя ў Беларускай ССР». З пункту гледжання савета Беласток да 1944 г. быў у Беларускай ССР. Але ў 1945 годзе — ужо ў Польшчы. Са сведчанняў, якія нам удалося атрымаць, вынікае, што злачынства ўчынена на тэрыторыі Беларусі. Такая была псіхалагічная ідэя, каб гэтае злачынства было зроблена не на тэрыторыі Польшчы, але ў Беларусі. Мы павінны паглядзець на карту і ўбачым, што ў гэтым кірунку з Гіб вядуць дзве дарогі. Адна вядзе праз Рыгаль на поўдзень, а іншая непасрэдна ў Беларусь. У цяперашні час гэтыя дарогі не дзейнічаюць. Другі шлях вядзе прама ў мясцовасць Калеты. Адлегласць паміж Гібамі і Калетамі складае каля 18 км. Не можам дакладна вызначыць, дзе было здзейснена забойства, але можам выказаць здагадку, дзе гэта адбылося. Гэтая тэрыторыя гэта лясная глуш. Паўднёвая частка гэтай тэрыторыі гэта ўжо невялікія пагоркі. Лягчэй было б знайсці схаванае месца на раўніне. Застаецца адкрытым пытанне, ці забойства мела месца перад ці за мясцовасцю Калеты. Усё паказвае на тое, што сакрэтная аперацыя была зроблена якраз там, на памежнай тэрыторыі, якая знаходзілася пад наглядам савецкай дзяржбяспекі.

✣ ✣ ✣

Канферэнцыя, прысвечаная Аўгустоўскай аблаве, адбылася таксама, між іншым, у гадавіну савецкага ўварвання ў Польшчу 17 верасня 2015 года ў Еўрапейскім парламенце па ініцыятыве еўрадэпутаткі, былой міністр польскага знешнепалітычнага ведамства Анны Фатыгі. 1 сакавіка 2016 г., падчас урачыстасцей з нагоды Нацыянальнага дня памяці салдат праклятых ля помніка воінам польскага падполля, загінулым на Крэсах Другой Рэчы Паспалітай у 1944-1954 гадах у Аўгустове, у сваю чаргу прэм'ер-міністр Беата Шыдла падкрэсліла:

— Трэба таксама сказаць і пра тых, хто быў падчас Аўгустоўскай аблавы жорстка закатаваны, дапытваны. Гэта некалькі тысяч чалавек, і больш за паўтысячы з іх не вярнуліся дадому, і да гэтага часу шукаем іх магіл, — сказала кіраўнік урада. — І праўда пра Аўгустоўскую аблаву — наш маральны абавязак. Каб дасягнуць яе, тае праўды, каб мы знайшлі магілы і змаглі запаліць свечкі на іх. Гэта наш маральны абавязак, так як нашым маральным абавязкам з'яўляецца клопат пра памяць тых, хто змагаўся да канца.

Тамаш Данілецкі ў гутарцы з намі абяцаў:

— Неўзабаве наш пракурор накіруе ў Беларусь заяву на атрыманне доступу да памежнай паласы ў раёне Калет. Але да гэтага часу ні адно з нашых легальных дзеянняў у Беларусі не магло мець месца. Гэтае пытанне павінна быць узнятае на афіцыйным міжнародным узроўні.

Перад двухдзённым афіцыйным візітам міністра замежных спраў Польшчы Вітальда Вашчыкоўскага ў Мінск (22-23 сакавіка) — першым на гэтым узроўні на працягу некалькіх гадоў — неафіцыйна гаварылася, што падчас яго будзе вынесена пытанне дапамогі беларускага боку ў высвятленні таямніц Аўгустоўскай аблавы (так, як гэтак званага беларускага катынскага спіска). Аднак паўтара тыдня да візіту пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў на наша пытанне адказаў, што гэтая праблема не будзе ставіцца.

Успаміны жыхароў Калет можна слухаць на сайце Радыё Рацыя.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# ФНР

Фонд народных рэцэптаў

## На хваробу — кот

Пра тое, што кацінае мурлыкание валодае гаючымі ўласцівасцямі, вядома практычна кожнаму. Напэўна шматлікія з вас, якія маюць дома чатырохногага мурлыку, заўважылі, як гэтая жывёла інстынктыўна вызначае ваша «балючае месца». Часцей за ўсё каты ўладкоўваюцца на нагах. Гэта нядзіўна, бо менавіта ногі атрымліваюць за дзень самую вялікую нагрузку і ўвечары пачынаюць «гудзець». Раскажу вам, якія пароды лепш за ўсё лечаць розныя захворванні. У адрозненне ад сабак, якія з'яўляюцца энергетычнымі донарамі, каты ў нас **забіраюць адмоўную энергію** двух тыпаў: тую, якая атрымана на працягу дня, і асабліва тую, якую «выпраменьвае» хворы орган, калі знаходзіцца ў дысбалансе з арганізмам. Кажучы простай мовай, каты лечаць хваробы, імкнучыся «залатаць» энергетычныя прарэхі нашага біяполя. Існуе нават асобная навука, якая вывучае лячэбныя ўласцівасці катоў — фелінатэрапія.

Якія **каты лечаць**? Усе каты валодаюць здольнасцю забіраць адмоўную энергетыку, аднак усе яны таксама маюць сваю «спецыялізацыю». Да прыкладу, зняць **стрэс і нервовае напружанне, бяссонніцу і дэпрэсію** пад сілу пухнатым катам. Каты з кароткім плюшавым кажушком выдатна ўздзейнічаюць на **сасуды і сэрца**, а лысыя і гладкашэрсныя лечаць хваробы **страўніка і нырак**. **Пагладжванне** гадаванца мае дабратворнае ўздзеянне на пункты на далонях, якія адпавядаюць розным органам чалавека. Пры гэтым статычная электрычнасць, якая ўтвараецца шэрсткай, значна ўзмацняе лячэбны эфект гэтага ўздзеяння.

Мяккае і мернае муркатанне з'яўляецца неад'емным кампанентам лячэбных уласцівасцей катоў, яно здольнае **супакоіць нервы, нармалізаваць ціск і сардэчны рытм**. А вось каты пароды «ірландскі аблавухі» дапамогуць нават справіцца з **бранхітам**.

Пры з'яўленні ў сям'і маленькіх дзяцей большасць людзей думае расстацца са сваімі пухнатымі ўлюбёнцамі, таму што бачаць у іх крыніцу алергіі для малога. Аднак гэта меркаванне хібнае. Даследаванні навукоўцаў даказалі, што ў дзяцей, у чыіх сем'ях маюцца каты, выпрацоўваецца ўстойлівы імунітэт да розных відаў алергіі на шэрсць, пух раслін і пыл.

Ва ўсіх вышэйпералічаных выпадках, калі ўзнікаюць праблемы са здароўем, значна лепш дапамогуць кошкі, чым каты. Але самцы — эксперты ў дапамозе пры захворваннях **костак** (артрыт, артроз, радыкуліт) і розных траўмах.

Ясюк СТРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Гімн вольных беларусаў




25 Сакавіка адзначаем у многіх школах Падляшша. Самыя ўрачыстыя святкаванні, на якіх сустракаюцца дзеці, моладзь, бацькі і дзяды, кожны год адбываюцца ў Беластоку.

Дзень волі пачынаецца з гімна ***«Мы выйдзем шчыльнымі радамі»***.

Ну, менавіта! Хто з вас ведае на памяць поўны тэкст гімна? Беластоцкія вучні часта карыстаюцца выдрукам гімна на картцы або ў смартфоне. Аднак самы дасканалы спосаб — развучыць словы і мелодыю на памяць. Гэта дапаможа запамятаць гімн на ўсё жыццё. Многія з вас ведаюць, што веданне нацыянальнага гімна — гэта аснова і неабходнасць. Яно сведчыць пра пачуццё гонару і веды па гісторыі і культуры свайго народа.



Фота Міры Лукшы

Беластоцкія дашкольнікі

Беларускі гімн ў стылі ваяцкага марша, па мелодыі ён напамінае французскую «Марсельезу» і польскі «Мазурак Дамброўскага». Яго змест гаворыць пра складаны лёс беларусаў, аднак верыць у перамогу і моц беларускага народа..

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны свой прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*
*Няхай жыве магутны, смелы*
*Наш беларускі вольны дух.*
*Штандар наш бел-чырвона-белы,*
*Пакрый сабой народны рух.*
*На бой! За шчасце і за волю*
*Народу слаўнага свайго!*

*Браты, цярпелі мы даволі,*
*На бой — усе да аднаго!*
*Імя і сілу беларуса*
*Няхай пачуе і ўбачыць той,*
*Хто смее нам нясці прымусы*
*І першы выкліча на бой.*
*Браты, да шчасця мы падходзім:*
*Хай гром грыміць яшчэ мацней!*
*У крывавых муках мы народзім*
*Жыццё Рэспублікі сваей!*

Аўтар гімна — Макар Краўцоў, музыку напісаў беларускі кампазітар Уладзімір Тэраўскі. У якасці гімна марш быў прыняты ў 1920 годзе і актыўна выкарыстоўваўся беларускай эміграцыяй, якая стаяла на незалежніцкіх прынцыпах і працягвала ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, створанай у 1918 годзе.

Пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе «ваяцкі марш» разам з гербам Пагоня і бел-чырвона-белым сцягам прапанаваліся ў якасці дзяржаўных сімвалаў. У гэтай справе, з публічным зваротам выступілі маральныя аўтарытэты: Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і Рыгор Барадулін. Гімн, герб і сцяг прысутныя ў жыцці беларусаў Беласточыны.

Пад знакам незалежніцкіх нацыянальных сімвалаў адзначаем Дзень волі і мерапрыемствы патрыятычнага і нават прыватнага характару. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі адбыліся пахаванні пісьменніка Сакрата Яновіча ў 2013 годзе. **(гак)**

Міра ЛУКША

## Вярба іва

*Што ж ты ломіш галіны,*
*вербачка-ракіта,*
*як рукі адчайнай дзяўчыны,*
*з роспачу тварам закрытым?*
*З Месяцам вяла размову,*
*з роднай зямлёй і вадою.*
*Яна іва,*
*справядлівая.*
*Моц незвычайную*
*дасць дзяўчыне адчайнай.*
*Крыўдзіцеля,*
*несправядлівага,*
*сама празмерна чуллівая,*
*пакарае непакорнай галінай,*
*што адагнецца і ўдарыць,*
*у красавіцкіх*
*каташках-кветках,*
*прагоніць розныя чары,*
*галінай бура-чырвонай,*
*лісцем пілкаваным, ланцэнтым.*
*Вярба б'е — не заб'е.*
*І няграшна жыць ля яе.*

## УВАГА КОНКУРС! № 13-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 3 красавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Мы дамоў праз лес ішлі,**
**Цуда-дом у ім знайшлі.**
**Робіцца з ігліцы ён,**
**а работнікаў — мільён.**
**Шчыра завіхаюцца.**
**На гару ўзбіраюцца.**
**І расце той дом уверх —**
**Кожны дзень гатоў паверх.**
**М.......**
**(У. Муравейка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 9-16: сабака,зубры.**

**Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Габрыеля Торка і Мілаш Тэлешэўскі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Я люблю вершы і гавэнды



**Інтэрв'ю з Дар'яй Місяюк, вучаніцай I класа Гайнаўскай белгімназіі, якая заняла I месца ў XVII Конкурсе беларускай гавэнды — Гайнаўка 2016.**

**Наталля Васько: — *Адкуль у Цябе ахвота прымаць удзел у шматлікіх конкурсах?***

**Дар'я Місяюк:** — Калі я была малая, можа ў першым ці другім класе пачатковай школы, дык на ўроках мы гаварылі вершы. Кожны мусіў дэкламаваць, а мне гэта вельмі добра атрымлівалася. З таго часу я пачала ездзіць на шматлікія конкурсы.

**Н. В.: — *Адкуль рашэнне, каб прыняць удзел у «Гавэндзе»?***

**Д. М.:** — Я ўжо некалькі разоў прымала ўдзел у конкурсах расказчыкаў. Заўсёды там займала прызавыя месцы. Апрача гэтага, я проста люблю гаварыць вершы і гавэнды. Гэта дае мне вялікую радасць і прыемнасць.

**Н. В.: — *На якую тэму быў Твой расказ у гэтым годзе?***

**Д. М.:** — Расказ быў аб тым, як калісьці ў вёсках адбываліся забавы і як гэта ўсё выглядала. Я расказвала як старэйшыя жанчыны сталі пад сценамі і ацэньвалі выгляд і танцы моладзі. Гэта было такое своеасаблівае публічнае абмеркаванне. Той, хто нетактоўна сябе паводзіў, адразу трапляў на языкі.

**Н. В.: — *Ты сама знайшла гэты тэкст?***

**Д. М.:** — Мне прапанаваў тэкст настаўнік беларускай мовы, спадар Янка Карчэўскі, які таксама дапамагаў мне ў падрыхтоўцы да конкурсу. Да маёй перамогі спрычыніўся таксама бацька, ён нешта расказаў, падказаў.

**Н. В.: — *Якія тэмы падыходзяць Табе найбольш?***

**Д. М.: —** Я найбольш люблю гаварыць пра гумарыстычныя сітуацыі. Як у гавэндах, так і ў вершах.

**Н. В.: — *Што для Цябе найважнейшае ў гавэндзе?***

**Д. М.:** — Я лічу, што найбольш істотнае тое, што я магу пераказаць іншым свае ідэі і думкі, паказаць як падыходжу да выбранага тэксту і як разумею яго сэнс. Я адчуваю, калі расказ трапляе да людзей, да публікі.

***Н. В.: — Віншую і жадаю далейшых поспехаў!***

**Д. М.:** — Дзякую!

*Размову правяла Наталля Васько, вучаніца I кл. Гайнаўскага белліцэя.*

# Атрымалі званне лаўрэата!

Папярэдні пералік пачатковых школ, якія перайшлі да ваяводскага этапу прадметнага конкурсу па беларускай мове мы склалі яшчэ да канчатковых вынікаў, каб такім чынам адзначыць фіналістаў. Зараз, пасля абвяшчэння вынікаў, назавем прозвішчы вучняў, якія атрымалі званне лаўрэатаў, пазначым таксама колькасць набраных імі балаў.

Непублічная школа свсв. Кірылы і Мяфодзія мае 8 лаўрэатаў: ***Аляксандра Паўлючук (57), Марыя Савіцкая (56), Алеся Буткевіч (55), Мілаш Тэляшэўскі (55), Эмілія Калодка (54), Іаанна Мусюк (54), Іван Карсунскі (52), Сяргей Раманюк (52)***.

Беластоцкая ПШ № 4 мае 7 лаўрэатаў: ***Мікола Здрайкоўскі (60), Кастусь Лукашэвіч (56), Вікторыя Пякарская (54), Марта Зубрыцкая (54), Кацярына Іванюк (54), Кандрат Косцін (54), Ксенія Клімюк (52).***

Бельская «тройка» — 5 лаўрэатаў: ***Дам'ян Бусловіч (59), Ганна Гадзінская (59), Вікторыя Раеўская (53), Ільля Фіёнік (52), Нэля Паўлючук (49)***.

Гайнаўская «шасцёрка» — 4 лаўрэаты: ***Іаанна Хамчук (58), Эва Іванюк (57), Андрэй Бабулевіч (56), Дам'ян Іванюк (53)***.

Нараўка — 3 лаўрэаты: ***Анна Радзівончык (58), Дар'юш Ясвіловіч (54), Эмілія Скепка (53).***

Чыжы — 2 лаўрэаты: ***Барбара Паўлючук (57) і Пятро Юрчук (54)***.

У Новым Корніне званне лаўрэата атрымаў ***Якуб Казімярук (59)***, а ў Дубічах-Царкоўных — ***Ніка Якімюк (55)***.

***Паводле апошняга спіска, рэйтынг школ па колькасці лаўрэатаў не памяняўся. У апошнім рахунку яшчэ больш стратнай аказалася бельская «тройка». Брава, Беласток!***



*Іван Карсунскі*

## Вершы Віктара Шведа



### Прыйшла вясна

Сонца свеціць надта ярка,
Зямля ўжо не ў сне.
Кажа шэфу сакратарка:
— Прыйшла вясна!

— Хай увойдзе, я чакаю, —
Быў шэфа адказ.
Усё навокал ажывае,
Настаў вясны час.

### Перасцярога

Нованароджаная сястры
Алінка заглянула ў ложак.
— Ты ў рот пялёнак не бяры,
Бо захварэць, памерці можаш.

Настаў цяпер такі ўжо час,
Што і змяняюцца ўсе людзі.
Ведай, што мама другі раз
Ужо цябе радзіць не будзе.

## Польска-беларуская крыжаванка № 13-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9:**

Хроніка, лок, нос, пшаніца, бо, ар, норка, то, дыктоўка, як, сказ, марка, карагод. Хром, дыск, нырка, бок, ар, порт, за, кот, Кракаў, клад, воцат, яры, кароўка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аня Рушук** з Новага Корніна, **Пётр Вілюк, Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Аня Радзівончык** з Нараўкі, **Матэвуш Казлоўскі** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Міхал Сахарчук, Мацей Сіроцкі, Эмілія Калодка** з НШ свсв. КіМ у Беластоку. Віншуем!

Stóg
Sęk
Połączenie
Garb
Uczta
Sto
Królik
Post
Miedza
Ego
Idol
Apia
Osioł
Wierzba
Irena
Emir
Plaża
Si
Za
Pianino
Zapał
Ala

# IX Агляд гафту і карункі

**Падвядзенне вынікаў «IX Агляду гафту і карункі Гайнаўскага павета 2016» і адкрыццё выставы рукадзелля адбылося 12 сакавіка ў Гайнаўскім доме культуры. Побач аўтараў прац сабраліся гайнаўяне, якім цікава было паглядзець вышыўку і карункавыя работы з традыцыйнымі матывамі і сучаснымі інспірацыямі.**

— Спачатку карункавыя і вышываныя вырабы прэзентаваліся ў невялікай зале нашага дома культуры на першым паверсе і ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы ў рамках мерапрыемства «Іголкай маляванае». У выніку стварыўся «Агляд гафту і карункі Гайнаўскага павета». Падчас агляду «Іголкай маляванае» не было конкурсу і да гэтай формулы мерапрыемства вярнуліся мы сёлета. Падчас мінулых выпускаў заўсёды былі незадаволеныя рашэннем конкурснай камісіі асобы, хаця камісія старалася працаваць як мага найбольш аб'ектыўна. У гэтым годзе рашыліся мы на няконкурсны агляд, паказваем самыя навейшыя працы рукадзельнікаў. Запрашаем на будучыню творцаў, якія яшчэ не прэзентавалі ў нас сваіх работ, — сказала старшы інструктар па справах мастацтва і рэкламы ГДК Анна Тарасюк, адказная за правядзенне агляду.

Агляд гафту і карункі адкрылі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, мастацкі кіраўнік Ядвіга Лях-Кучкін і старшы інструктар Анна Тарасюк.

— Відаць тут, як вялікую працу мусілі ўкласці ўдзельнікі агляду, каб выканаць прэзентаваныя тут цудоўныя работы і якой цярплівасці трэба было, каб гэта зрабіць, — заявіў дырэктар Расціслаў Кунцэвіч, які разам з працаўніцамі дома культуры ўручыў дыпломы і падарункі ўдзельнікам агляду.

Мастацкі кіраўнік Ядвіга Лях-Кучкін сказала, што побач прац жанчын, якія здаўна займаюцца ручнымі работамі і ўдала ўпрыгожваюць імі свет, на выставе прэзентуюцца таксама работы мужчын — удзельнікаў Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы, якія ахвотна займаюцца жывапісам, мяшанымі тэхнікамі і вышываюць. Іх апекуны звярнулі ўвагу на асаблівыя здольнасці ўдзельнікаў гайнаўскай майстэрні, якія рэдка паяўляюцца нават у паўнаспраўных асоб. Вядомы гайнавянам Барташ Шпаковіч на гэты раз выклеіў з нітак выяву Архангела Гаўрыіла. Прэзентуецца яна на выставе і ў кніжачцы, якую выдаў Гайнаўскі дом культуры з нагоды агляду. Змешчаны ў ёй па адной працы 29 удзельнікаў сёлетняга агляду гафту і карункі.

— Я прымаю ўдзел у аглядзе гафту і карункі ад першага выпуску. Атрымала 4 узнагароды і 2 разы заняла першае месца. Падчас адных аглядаў прызначалі канкрэтныя месцы, а падчас іншых — даваліся толькі ўзнагароды і вылучэнні. Сёлета мы ведалі, што будзе няконкурсны агляд. Самае важнае, што можна тут запрэзентаваць свае апошнія працы і паглядзець работы іншых рукадзельнікаў. Я заўсёды прэзентавала ручнікі, прывозіла сюды работы выкананыя кручком і вышываныя працы, а таксама іконы. Свае работы найчасцей паказваю на фэстах, а з нагоды дзесяцігоддзя маёй актыўнай працы ў якасці рукадзельніцы арганізавалася выстава маіх работ у Нараўчанскай гміне. Мае працы паказваліся на 75 выставах, уключна з выставамі на фэстах. Люблю прывозіць свае работы на гайнаўскі агляд, — расказвала Галіна Бірыцкая з Плянты.

Малгажата Краўчык, таксама з Плянты, на гайнаўскім аглядзе паказвае свае працы сёмы раз.

— Я пераехала сюды на пастаяннае жыхарства ажно з Лодзі. Мне тут вельмі падабаецца. Я займаюся разьбой, пішу вершы і многа часу прысвячаю працы з кручком і вышыўцы. На выставе паказваюцца мае навейшыя работы. Свае працы паказваю і прадаю на беларускіх фэстах. Агляд дае магчымасць параўнаць свае вырабы з працамі іншых рукадзельнікаў. Зараз я займаюся рэалізацыяй праекта «Падляшскія мадонны». Планую з дапамогай гмінных улад арганізаваць майстар-класы па разьбе, апублікаваць свае вершы і правесці аўтарскія спатканні з жыхарамі Нараўчанскай гміны. Прадбачваем наладзіць выставу разьбы — вынік арганізаваных намі майстар-класаў. Мне вельмі падабаецца тутэйшая атмасфера і менталітэт мясцовага насельніцтва. Мы добра разумеем адно аднаго. Я пішу пра жанчын і апісваю тое, што тут бачу. Людзі тут добрыя і адкрытыя на іншых. У мяне ёсць яшчэ сілы і я хачу працаваць у карысць мясцовага насельніцтва, — сказала Малгажата Краўчык.



Данута Каліноўская з Новага Масева са сваімі вышыванымі іконамі

Вельмі вялікае ўражанне зрабілі на сабраных шырокагабарытныя вышываныя працы Дануты Каліноўскай з Новага Масева. Два гады вышывала яна вялікую па памерах выяву Божай Маці з Хрыстом на руках і рабіла гэта паводле кананічнай праваслаўнай іконы. На агляд прывезла таксама вышываную выяву Святой Тройцы.

— Ікону Божай Маці я вышывала вельмі доўга, бо яна вялікіх памераў. Прывезла таксама вышываныя ікону Святой Тройцы і карціну з выявай Ангела-ахоўніка, які апякуецца малымі дзеткамі. Каб выканаць усё тое, што сюды прывезла, спатрэбілася многа часу, — заявіла пенсіянерка Данута Каліноўская. — Мы з мужам родам з Новага Масева і Міклашэва, але жылі ў Беластоку. Дамы, у якіх мы выхоўваліся, занятыя і мы купілі іншую хату ў Новым Масеве і вярнуліся на бацькаўшчыну.





На разведку ў Гайнаўскі дом культуры прыехалі жанчыны з гміны Гарадок, якія таксама вышываюць, выконваюць карункавыя працы і прадаюць іх на фэстах.

— Мы хацелі пабачыць гайнаўскі агляд. Я здаўна займаюся рукадзеллем. У Доме культуры ў Гарадку прадбачваецца выстава маіх прац. Можа ў будучыні дашлю свае вырабы на гайнаўскі агляд, калі нам, рукадзельніцам з Гарадоцкай гміны, можна будзе прыняць у ім удзел, — сказала Міраслава Антановіч з Гарадка.

Раней на гайнаўскім аглядзе свае працы паказвала Хрысцінія Грыгарук з Орлі, якая сваё рукадзелле прадае на беларускіх фэстах. У гэтым годзе давезла, між іншым, цудоўную карункавую фіранку на акно. Зінаіда Жыўлюк з Кляшчэляў прывезла ў Гайнаўку вырабы вышываныя плоскім гафтам і аздобленыя карункамі. Увагу наведвальнікаў выставы прыцягнуў яе прыгожы абрус.

— Плоскага гафту тут мала. Бачыла яго толькі на ручніку і яшчэ на іншай працы. Таму мае працы адметныя на гэтай выставе. Я другі раз прывезла свае вырабы на агляд. Выстава для мяне з'яўляецца крыніцай інспірацыі. Я тут бачу прыгожыя даўнія матывы, састаўленне колераў і сучасныя матывы, якія можна выкарыстаць у вышыўцы, — сказала Зінаіда Жыўлюк.

Побач вясковых жанчын на гайнаўскую выставу прыносяць рукадзелле жыхаркі Гайнаўкі, найчасцей ураджэнкі навакольных сёлаў. Калі працавалі і выхоўвалі дзетак, не было ў іх часу на рукадзелле. Цяпер, калі сталі пенсіянеркамі, вярнуліся да занятку, які вывучылі ў маладосці ад сваіх мам або бабуль. Так было з трыма сяброўкамі Янінай Плевай, Зінаідай Бакун і Ленай Шчыгельскай з Гайнаўкі.

— Я навучылася рабіць кручком у маладосці і вярнулася да гэтага занятку, калі стала ў мяне больш часу. Я раблю кручком, калі толькі паяўляецца крыху вольнага часу, раблю, калі знаходжуся ў шпіталі або тады, калі трэба нечага чакаць. Рукадзелле супакойвае, калі нечакана паяўляюцца нервовыя абставіны і тады, калі ўзнікаюць жыццёвыя складанасці. Я другі раз прымаю ўдзел у аглядзе, а заахвоціла мяне сяброўка Яніна Плева, — заявіла Лена Шчыгельская.

— Мяне ахрысцілі і называлі дома Ніна, а чыноўнікі запісалі Янінай, бо так калісь было. Я ўжо многа разоў прымала ўдзел у аглядзе гафту і карункі, займала прызавыя месцы. Агляд мне спадабаўся і штогод прыношу новыя работы. Цяпер вяртаецца мода на рукадзельныя вырабы і таму на выставу прыходзяць аматары новых узораў, — сказала Яніна Плева.

У аглядзе прызавыя месцы займала таксама Зінаіда Бакун, якой абрус атрымаў сёлета вылучэнне.

— Раней удзельнікі агляду рыхтавалі па 5 прац, таму выставы былі перагружаны. Цяпер ад кожнага ўдзельніка патрабуецца да 3 прац і такім чынам можна ў цікавы спосаб запрэзентаваць усе работы, — сказала старшы інструктар Анна Тарасюк.

Анна Харытанюк з Гайнаўкі штогод прыносіць на агляд шыкарнае сучаснае рукадзелле — сутажную біжутэрыю.

— Спачатку мае сутажныя ўпрыгажэнні былі на аглядзе навіной, паколькі звычайна прэзентавалася традыцыйнае рукадзелле. Аднак камісія высока ацаніла мае працы і ў гэтым годзе прынесла я на агляд новую біжутэрыю з сутажу, — заявіла Анна Харытонюк.

Выстава гафту і карункі прэзентуецца ў галерэйнай зале і на вялікім калідоры, якія раней былі адрамантаваныя.

— У мінулым годзе мы завяршылі поўную мадэрнізацыю сцэны, мяняючы таксама асвятленне і візуалізацыю сцэны. Выкарысталі сродкі з Міністэрства культуры і з гэтай самай крыніцы атрымалі сродкі на мадэрнізацыю канцэртнай залы, да рэалізацыі якой мы ўжо падрыхтаваныя, — сказаў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Радасць ад спадчыны

Да **Веры Нічыпарук**, адухаўляючай мастацкі самадзейны калектыў „Малінкі", трапіць складана. Яна сама рэкамендуе пытацца пра дарогу да яе ў людзей. Дарожка мае быць ад крамы...

Малінніцкая крама на абочыне сяла, пры выязной дарозе ў напрамку Шарнёў і Орлі. На парозе крамы сустракае мяне мужчына з пытаннем, ці я часам не да спадарыні Веры; гэта яе муж Пётр. Вядзе мяне ў сваю хату. Спярша шагаем загуменнай дарогай Маліннік, пасля зварочваем у бок недалёкага прысёлка. Перасякаем выгадную кладку на рачулцы.

— Гэта Белая, што цячэ цераз Бельск? — пытаю.

— Так. Калісь была яна шырокая, кусты раслі абапал, поўна рыбы было ў ёй, людзі кломлямі лавілі. А цяпер нічога ў ёй няма.

Сапраўды, зараз багатая калісь рэчка зведзеная меліярацыяй адно да адрэзкаў прамалінейных ручайкоў.

— Тут калісь, дзе мы цяпер жывём, быў панскі двор, — расказвае спадар Нічыпарук. — Быў пан Бараноўскі, адтуль і пайшла назва прысёлка — Бараноўцы. Мой дзед з Дубін купіў той маёнтак і сюды перасяліўся. Двор быў драўляны. У вайну немцы загадалі перасяліцца ў сяло. Калі ў час вайны тут разгарэўся бой, амаль уся вёска Малінніки згарэла, толькі тры хаты асталіся. Згарэлі таксама і нашы былыя дворскія будынкі...

Ад двара на абочыне поймы Белай астаўся толькі падзелены дамбай стаў...



■ Вера Нічыпарук

### Школа

Да спадарства Нічыпарукоў прыехалі гарадскія дзеці, але яны зараз разбегліся за работай. А я пытаю спадарыню Веру пра малінніцкае мінулае:

— У Малінніках стаіць школьны будынак, мураваны, двухпавярховы. Там працавала школа, названая імем нейкага савецкага афіцэра...

— Лейтэнанта Кузьмінова.

— Што Вы пра яго ведаеце?

— Я пра яго знаю мала, бо я тады была малым дзіцём, але як адкрывалі школу, то людзі шмат гаварылі пра яго. Гаварылі, што сюды прыйшла савецкая разведка, а ў Тапчыкалах на горцы стаялі немцы. Ён з біноклем залез на тапаль аглядаць ваколіцу і яго з тапаля немцы збілі.

— А дзе яго пахавалі?

— На школьным пляцы быў крыж, польскі, вельмі прыгожы, мураваны, з Распяццем. І яго пахавалі каля таго крыжа. А пасля тых усіх байцоў пазвозілі, бо і на падворку быў забіты, то яго забралі, і каля рэчкі была магілка, то забралі...

— А калі гэтую цяперашнюю школу стаўлялі?

— Мне было тады мо з дванаццаць гадоў. Я ў школу ў Рыгораўцы тры гады хадзіла. Наша хата была каля школы, то ў нас цэлае бюро было, рабочыя ўвесь час хадзілі, трэба было штодня падлогу мыць, мама варыла есці тым чыноўнікам. То яшчэ хіба з тры гады сюды хадзіла вучыцца. То нашу школу, здаецца, мо ў пяцьдзясят чацвёртым ці пятым, а можа і ў пяцьдзясят шостым паставілі; я з саракавога і ўжо ў гэтай школе канчала сямігодку.

— То тут, у Малінніках, раней школы не было?

— Была пасля вайны, у сяле, год ці два, пасля на калёніі, але я ў тыя школы не хадзіла. Калі ў Малінніках стала школа, то сюды прыйшоў такі загадчык, вельмі сімпатычны. Ён сам быццам французам быў, Монсуль Юзаф называўся; ён тлумачыў, што *мон* — гэта *маё*, а *суль* — гэта *неба*. Ён быў вельмі гаспадарлівы. Вакол школы быў палетак плошчай у гектар. Ён там агарод закладаў, памідоры, буракі, моркву вырошчваў. Ён прывіваў у нас цікавасць да гаспадарання. Пасля ўрокаў мы хадзілі ў той агарод, панавучваліся там і садзіць, і палоць. Нас нечым частаваў; ну, такі чалавек. Трымаў карову, буракі той карове садзіў. І ён яшчэ трымаў іншыя жывёлы — і саламандру, і вожыка... А мы ўсё яму памагалі. Не вельмі ён нават хацеў, бо наймаў людзей, напрыклад капаць і чысціць буракі, але мне хацелася бываць у яго гаспадарстве, яно ж было па-суседску з нашай хатай. Гэтак было ў буднія дні. А па нядзелях можна было ў школе ладзіць забавы. З навакольных вёсак з'язджаліся хлопцы, а ў Малінніках было шэсцьдзясят дзяўчат, шмат было моладзі. Вечарамі распальвалі печку на трох нагах, жалезную, і сходзіліся. Было весела. Монсуль жыў па-суседску то мама высылала мяне то малако занесці, то хлеб, калі свежы спякуць. Тата раз кажа яму: „Пане Монсуль, вашы яйкі памерзнуць — бо ранні Вялікдзень". А ён адказваў: „А вашы да Вялікадня прасмердзнуць"; такія жарты былі. І шмат чаго можна было ад яго навучыцца, напрыклад, як выпякаць цяляціну.

— Ён жанаты быў?

— Жанаты і меў дзве дачкі, якія ўжо ў Варшаве вучыліся. У Варшаве жыў ягоны брат. У нас ён працаваў да выхаду на пенсію, а пасля выехаў у Варшаву. І там ён пахаваны з жонкай.

Гэтак было ў школе ў Малінніках. Скончыла я сем класаў і напісала заяўку ў беларускую школу вучыцца далей. Але трэба было завезці туды плацежны ордэр (**nakaz płatniczy**). А мой брат ажаніўся з удовінай дачкой з Рыгораўцаў, у якой было шмат зямлі. І тую зямлю дапісалі да нас. Я паказала ў школе той ордэр — дачка багатага бацькі! Не прынялі мяне ў школу. Яшчэ сказаў той дырэктар, каб я песню заспявала. Калі б я можа заспявала „Расцвіталі яблыні і грушы", то было б усё ў парадку. А тады ў нас на практыцы была маладая настаўніца і завучыла нам такую песню: „**Wzbił się orzeł z grani wysokiej, wzbił się spod wysokich gór...**". Яна была таксама пра Сталіна і Леніна. Я заспявала, ну і ўсё. І так я асталася дома. І сказала: „Буду найцяжэй рабіць, але буду дома". Можа праз месяц тата прыязджае з Бельска і кажа: „Вера, я цябе завязу ў школу". Я пытаю: „Чаму?" — „Бо я гаварыў з такім Тамашом, а ён мне кажа: — А чаму ж ты раней мне не гаварыў, гэта ж мой сябра і хадзіла б ужо дзяўчына ў школу". А я засумавала, бо ўжо мо з месяц навукі прайшоў і як мне будзе справіцца. І кажу: „Татачку, я буду па работах ездзіць, я буду як найцяжэй працаваць, але ў школу не хачу, бо мне цяжка будзе вучыцца". І так асталася дома. Але мне рабіць не дазвалялі, бо мой тата займаўся скупкай шкур, прымаў зёлкі, у нас былі грошы і мне не трэба было па работах ездзіць. Аднак калі дзяўчаты ехалі, то як мне было дома аставацца? А ж дзве братавыя ў хаце і ёсць каму рабіць на гаспадарцы. То я прашуся-прашуся і выпрашуся на работу. І так стала на работы ездзіць. І на бруку рабіла, і пасадку садзіла, і яшчэ дзе працавала — па некалькі месяцаў, але рабіла дзе ўдалося. І я за тыя грошы апраналася, бо сяброўкі, якія таксама працавалі, то мелі сямейныя расходы, а я за свае грошы апраналася. Атрымаю тысячу злотаў зарплаты і за пяцьсот сукенку куплю, сама модную...

А пасля замуж. Дзяўчаты сталі выходзіць замуж, а я за свайго не спяшала. І ўцякла на работу — у Голдап пасадку садзіць. Думала, што мой кавалер за той час ажэніцца з іншай. Я вярнулася, а ён зноў да мяне... А калісь то так не было, як маладыя хацелі, а як бацькі рашылі. Добра, кажу бацькам, выйду, пажыву з месяц і да вас вярнуся. Але атрымалася інакш. Мужава гаспадарка была вялікая, наёмнікі нават былі, але калі я прыйшла замуж, то ўжо наёмнікі сталі непатрэбнымі, бо работніца з'явілася. А я ж усё рабіла, бо калісь то трэба было палоць усё — і авёс, і пшаніцу. Не тое, што цяпер. Асабліва каб асоту не было, бо іншае зелле як папала, але асот мусова было вырваць. Але ўжыліся, нарадзіліся дзеці, муж стаў на работу, трактарыстам. Кантрактавалі то бульбу, то лубін...

### Царква

— Я можа адхілюся ад Вашай біяграфіі ў крыху іншы бок. Я вось прайшоўся побач малінніцкіх могілак. Там царкоўка, даволі новая. Як яе тут будавалі, па чыёй ініцыятыве?

— Мой тата быў увесь час царкоўным старастам у Падбеллі. І яны ўвесь час гаварылі каб неяк у Малінніках каплічку пабудаваць. Пасля ў сяле сталі гаварыць пра каплічку. І ў рэшце рэшт знайшлася Ганна з Руткі, якая паабяцала, што дасць шмат грошай. Быў сход, усе былі згодныя ставіць капліцу. Было гэта восенню, а на Руздво тая Ганна пехатою прыйшла з Руткі — гэта каля дванаццаці кіламетраў. Прыйшла яна, каб калядаваць на тую царкву. Хадзіла яна па Малінніках, дзе шмат жа пеўчых, але ніхто не хацеў ісці калядаваць, бо ж у кожнага госці. У мяне госці ўжо раз'ехаліся і я таксама падалася на вёску арганізаваць калядаванне, бо ж на пабудову царкоўкі патрэбны грошы. Але няма ахвотных, бо ўсюды госці. Але неяк удалося сабраць крыху пеўчых, прайшлі праз сяло, закалядавалі грошы. На другі дзень Руздва мяркуем падаца ў Пашкоўшчыну, але атрымалася калядаваць у Шарнях. І пасля ўжо кожны дзень ездзілі і калядавалі. Але з мяне хапіла. Бо ж я мусіла зайсці ў кожную хату і спытацца, ці можна калядаваць на малінніцкую царкву, а іншыя стаялі і чакалі. Я так тады замучылася, што адхварэла. А пасля адна баба пусціла чутку, што я грошы ўкрала. А я ж пражыла шмат жыцця і мне заўсёды даручалі збіраць грошы, бо ведалі, што я не ўкраду, бо я ў грошах жыла. І гэта — хвароба і паклёп — мяне прыбілі і далей калядавалі без мяне. Пайшлі грошы на рахунак. На могілках была яма, тую яму завазілі і там паставілі царкву. Яна стаіць нядоўга, недзе каля дзесяці гадоў, але ўжо фундамент дае трэшчыны. Паставілі яе ў найніжэйшым месцы могілак, каб вышэй хаваць пакойнікаў.

— Як часта адбываюцца ў Малінніках службы?

— Кожную другую нядзелю.

— А пад чыім заступніцтвам царкоўка?

— Гаўрыіла Заблудаўскага. Добра, што яна тут ёсць. Бо ў Падбелле сем ці восем кіламетраў. Калісь вазамі ў царкву ездзілі або пехатою хадзілі. А малінніцкія людзі вельмі набожнымі былі, найбольш іх на набажэнствах у Падбеллі бывала.

### „Малінкі"

— А цяпер пра іншае: Вы з'яўляецеся душой калектыву „Малінкі". Як у ім справы?

— Ён існуе, але невядома, што будзе далей. Асталося нас тры. Сёлета прымалі ўдзел у адборах да конкурсу „Беларуская песня", але нас не дацанілі. Былі раней дзяўчаты: адна ў Ломжу замуж выйшла, другая сюды пад Дубна, нарадзіліся ў яе дзеці. І няма з кім спяваць. Калектыў завязаўся ў 1998 годзе. Ён яшчэ дзейнічае, але мне найбольш шкада, што тыя нашы песні, наша мова, затрачваюцца. Бо калі нас, адзіных, што ў Бельску спявалі нашы песні, не дацанілі, то мы ў будучым годзе ўжо не будзем спяваць. Мне балюча, што нашы не цэняць нашай спадчыны.

Яшчэ ездзім з „Малінкамі" паказваць абрадавыя сцэнкі, па цэлай Польшчы ездзім: у Казімеж, Сточак-Лукоўскі...

— А хто вас туды заяўляе?

— У Сувалках ёсць такі пан Наляскоўскі, ён сам з цэнтральнай Польшчы родам. Ён прыязджаў да нас, тут жніво запісваў, Юрыя тут на панадворку запісаў — прыехаў асабіста, так як вы — дахаты. І запрасіў нас у скансэн; у мінулым годзе паказвалі квашанне капусты. У Сточку паказвалі сенакос. Сёлета сенакос паказвалі ў нас „Васілёчкі", але іх больш за дваццаць асоб. А я задумала паехаць з песняю нашаю; кажу Валі, сестрыной дачцэ: ты будзеш спяваць: *Там за гаём-гаём, гаём зэлёнэнькім, там за гаём рвала ўдова лён дробнэнькі. Вона рвала, выбірала, тонкі голос подавала*. Прыйдзе Васілька з касою, няхай перахрысціцца і косіць. Як будзеш спяваць: *Там Василько сено косіт, тонкі голос пэрэносіт*. А той Васілька стане і будзе слухаць, як тая ўдава спявае. І мы тыя сцэнкі рыхтавалі без рэпетыцый — у аўтобусе развучвалі, выходзілі на сцэну і добрыя месцы займалі.

Па нашых выступленнях у Сточку і Тарнагродзе чатыры студэнткі дыпломныя працы напісалі. І гэта мяне радуе...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг настаўніцкай семінарыі Баляслава Пачобкі яна на даволі працяглы перыяд свайго жыцця вызнавала сябе прыхільніцай царкоўнай уніі. Прынамсі, у 1927 г. у хадэцкай газеце «Беларуская крыніца» змешчаны яе рэпартажы з Беласточчыны, у якіх яна адкрыта выказвала свае сімпатыі да уніі.

Пра тое, што Баляслаў Пачобка сярод праваслаўных слухачоў Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі (апошнія складалі амаль увесь кантынгент навучэнцаў) праводзіў адкрытую ўніяцкую прапаганду, сігналізаваў у сваім лісце да Антона Луцкевіча ўвосень 1917 г. другі выкладчык семінарыі Баляслаў Кваціньскі: «Рэлігія выкладаецца курсістам датычна — каталіцкая, бо выкладае яе пан Пачобка... Дайшло да таго, што ён упісаў у праграму для дзяцей праваслаўных па рэлігіі каталіцкія элементы, для таго каб курсісты спісалі гэта і вучылі з гэтага ў сваіх школах... Зараз, доўга не думаўшы, Пачобка стараецца, каб для праваслаўных дзяцей былі пераложаны кароценькія стары і новы тэстаменты і катэхізіс, ... і каб язык рэлігійны ў перакладзе не хаваўся, бо ў п. Пачобкі Цэркві ўжо няма, а застаўся толькі Касцёл, і каб гэтыя кніжкі былі разасланы па ўсіх беларускіх школах». Падобнае стаўленне В. Маслоўскай да праваслаўнай царквы ў той час магчыма звязана з тымі абставінамі, што амаль увесь клір Расійскай праваслаўнай царквы падчас адступлення царскай арміі ў 1915 г. з'ехаў на ўсход, пакінуўшы сваіх праваслаўных вернікаў без духоўнай апекі. З больш чым 600 праваслаўных святароў, псаломшчыкаў і манахаў, якія абслугоўвалі звыш 600 парафій, на захопленай нямецкімі войскамі тэрыторыі Віленскай праваслаўнай епархіі засталося не больш шасці праваслаўных духоўных асоб, у той час як з Гарадзенскай губерні летам 1915 г. эвакуявалася ў глыб расійскай тэрыторыі ўсяго дзевяць рымска-каталіцкіх пробашчаў і адзін дзякан.

Надалей у В. Маслоўскай было настаўніцтва ў менскіх беларускіх школах, праца школьным інструктарам Наркамасветы ССРБ з лета 1920 г. Увосень 1921 г. яна засылаецца з Менска на падпольную працу па заданні партыі беларускіх эсэраў на Беласточчыну. У 1923 г. яе чакаў судовы працэс і прысуд на 6 гадоў польскай вязніцы. Але, гэта ўжо іншая гісторыя.

❖ Уладзімір ЛЯХОЎСКІ

## АНКЕТА

**для асобы, жадаючай працаваць у нацыянальна-арганізацыйнай і школьнай справах**

1. ***Прозьвішчо, імя і вотчэство*** *Матэйчук Вера Ігнатава*
2. ***Калі радзіўся (год, месяц і чысло)*** *1898 году 11 сакавіка*
3. ***Гдзе радзіўся*** *ў весцы Агароднічкі Беластоцкага павету*
4. ***Рэлігія*** *ні праваслаўная, ні каталічка, а прыхільніца ўніі*
5. ***Адукацыя (дзе, калі і якую скончыў школу)*** *Свіслачанскую вучыцельскую Беларускую семінарыю у 1917 г. і І-ые Віленскіе курсы*
6. ***На колькі ведае беларускую мову: чытаць*** *— вельмі добра;* пісаць *— добра;* ***гаварыць*** *— вельмі добра*
7. ***Якіе іншые мовы і на колькі*** *маскоўскай, польскай і нямецкай магу добра чытаць, пісаць і гаварыць*
8. ***Знаёмства з беларускім рухам*** *з 1917 г.*
9. ***Знаёмства з школьнай справай*** *была вучыцялькай с 1917 г. па 1919 г. у Бельскім павеці Городзенскай губ.*
10. ***Знаёмства з сельскай гаспадаркай*** *Дочка селяніна і працавала на гаспадарцы пры бацьках*
11. ***Знаёмства з прафэс. рухам*** *—*
12. ***Знаёмства з коопэратыўнім рухам*** *—*
13. ***Ці працаваў у беларуск. арганізац., калі і якой*** *у Горадзенскай грамадзе моладзі і Гуртку беларусак**
14. ***Агульна-грамадзянская праца*** *Старшыня Гуртка Беларусак*
15. ***У якой часткі Беларусі жадае працаваць*** *ў Ваўкавыскім і Берастцейскім паветах*
16. ***Асобные дадаткі*** *—*
17. ***Адрэс:*** *Менск Губэрнаторская вул., дом № 52, кв. 3*

**В. Матэйчук (подпіс)**

*Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 368, воп. 1, спр. 16, арк. 63.*

* Маецца на ўвазе «Гурток беларускіх кабет помачы беларускім ваякам», утвораны ў снежні 1919 г. па ініцыятыве Веры Матэйчук, Веры Юкаўлевай, Марыі Касатай і інш. Паводле статуту апошні меў сваёй мэтай «абслугоўваць матэрыяльныя і духоўныя патрэбы беларускага войска»: загадванне афіцэрскай і жаўнерскай кухнямі, адкрыццё страўні, пайковай крамы, гарбатні, бібліятэкі, санітарнага аддзелу і шпіталя, а таксама вечаровай школы пісьменнасці для жаўнераў.




Злучаныя Штаты Амерыкі шмат для каго на планеце з'яўляюцца найбольш пажаданым месцам для жыцця і працы. Таму цалкам верагодна, што там жывуць выхадцы з усіх краін свету. Беларусы ў гэтым не выключэнне, і беларуская дыяспара там хоць не самая шматлікая, але больш не менш дзейсная і згуртаваная.

Распавядаючы пра сайты беларусаў іншых краін, „Ніва" час ад часу закранала і нашых амерыканскіх суродзічаў. І гэта натуральна, бо беларуская дыяспара ў ЗША арганізацыйна адна з найстарэйшых. Арганізацыйна яна паўстала пасля Другой сусветнай вайны і аб яе трываласці сведчыць змена ўжо не аднаго пакалення аб'яднаных амерыканскіх беларусаў. Яны злучаны ў Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА), якое мае тэрытарыяльныя структуры. Адно з іх — Бруклінскі аддзел, сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://baza.nyc.**

Сайт бруклінскіх, а дакладней нью-йоркскіх, беларусаў даволі просты, але пабудаваны ў адпаведнасці з цяперашнім модай у будаўніцтве сайтаў. Так, на ім няма дзялення на дзве ці тры часткі, а выйсці на рубрыкі месяцца толькі ўверсе. Але пры ўсёй сучаснасці будовы сайта на ім мы не знойдзем аніякай мультымедыйнасці. Больш за тое — няма там нават ніводнага здымка, які б хоць якім-кольвек чынам паказваў дзейнасць сябрoў бруклінскага аддзела. У гэтым, бадай, асноўны недахоп віртуальнага прадстаўніцтва беларусаў Нью-Йорка.

Што ж тычыцца пададзенай там інфармацыі, то яна адназначна задаволіць інтарэс зацікаўленага ў знаёмстве з бруклінскімі беларусамі ў частцы прадстаўлення даведкавых звестак. „Бруклінскі аддзел БАЗА — прадстаўніцтва Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Ёрку. Аддзел аб'ядноўвае беларускую грамаду горада Нью-Ёрк і наваколья", — распавядаецца на старонцы „Пра нас". Там жа адзначаецца, што сяброўскія сустрэчы аддзела адбываюцца кожную нядзелю ў грамадскай зале пры Саборы св. Кірылы Тураўскага, зразумела, у Нью-Йорку.

Праўда, тое-сёе з пададзенай у гэтай рубрыцы інфармацыі пакідае пытанні. Так, управа аддзела, якая дзейнічала ў 2014-2015 гадах, ужо не працуе, бо пераабрана. З пераабраных пазначана толькі Тацяна Красоўская, якая ў мінулым складзе была рэферэнтам па гаспадарчых пытаннях, а цяпер стала старшынёй цэлага аддзела. Такі ўзлёт у грамадскай дзейнасці аднаго чалавека пры неабранні на даны момант іншых сяброў управы выклікае падазрэнні, што нешта ў арганізацыі пайшло не так. Інфармацыі, якая б дазваляла высветліць даную акалічнасць, на сайце няма.

Разам з тым інфармацыя пра іншыя бакі жыцця аддзела адлюстроўваецца даволі падрабязна і пастаянна. Пра гэта сведчыць галоўная старонка сайта, якая адначасова з'яўляецца стужкай навін. Прыемна, што тычацца яны выключна тамтэйшага жыцця, хаця кранаюць такія сусветна гучныя тэмы, як, напрыклад, зняволенне ў Расіі ўкраінскай лётчыцы Надзеі Саўчанкі. Адлік навін вядзецца ад снежня 2014 года, калі, як сведчыць першае паведамленне, і з'явілася ў інтэрнэце даная вэб-старонка.

Сярод нешматлікіх рубрык сайта, што могуць быць цікавыя для беларускамоўнага чытача — „Газета «Беларус»" з мноствам падрубрык і выйсцем на сайт газеты, а таксама „Далучыцца", дзе распавядаецца пра чыннікі і працэдуру ўступлення ў шэрагі амерыканскіх беларусаў. Да таго ж сайт мае прэзентацыйныя старонкі на англійскай і іспанскай мовах.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




## Руплівая беларуская «Мурашка»

## 120 гадоў з дня нараджэння Веры Маслоўскай

Грамадска-культурніцкая дзяячка, паэтка, арганізатарка беларускага школьніцтва на Беласточчыне Вера Маслоўская (дзявочае Матэйчук) нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у Супраслі ў сялянскай сям'і. Пачатковую асвету атрымала ў Агароднічках і Супраслі, працавала на тэкстыльнай фабрыцы. Вызначылася як арганізатар страйку, за што была звольнена з працы. Матэрыяльнае становішча не дазваляла далей вучыцца. Вера была дома і ў 1914 г. здала экстэрнам выпускныя экзамены ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Але якраз выбухнула вайна.

У канцы 1915 г. пад немцамі паўстала магчымасць арганізацыі беларускіх школ. У 1917 г. Матэйчук зноў у Свіслачы на педагагічных курсах, якія дзеілі пры беларускай настаўніцкай семінарыі. Скончыўшы іх, едзе ў вёску Грабавец Арлянскай воласці, дзе арганізуе беларускую школу, кіруе ёю цягам двух гадоў. У жніўні 1919 г. на настаўніцкіх курсах у Вільні, дзе актыўна ўключаецца ў палітычны рух. Год настаўнічала на Меншчыне ў вёсцы Карма Ігуменскага павета, была школьным інструктарам Барысаўскага і Дзісенскага паветаў. Адна з заснавальніц і старшыня Цэнтральнага саюза беларусак. Далучылася да беларускай партыі сацыялістаў, пад уплывам Палуты Бадуновай напісала першы верш „Ідзі!", які быў надрукаваны ў менскай газеце „Беларусь".

У лютым 1920 г. выйшла замуж за Уладзіслава Маслоўскага, беларуса з Віленшчыны, які неўзабаве загінуў на фронце. У канцы 1920 г. Маслоўская вяртаецца ў родныя Агароднічкі з мэтай стварыць у Беластоцкім, Бельскім, Сакольскім паветах падпольную арганізацыю. Кіраваў ёю ўрад Ластоўскага, які ў той час быў у Коўне. Пад канец 1921 г. арганізацыя мела структуры ва ўсіх паветах.

У верасні 1921 г. як дэлегатка ад Беласточчыны і Гарадзеншчыны ўдзельнічала ў Празе ва Усебеларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе. Там выступіла з рэзалюцыяй за ўз'яднанне ўсіх беларускіх зямель. Пасля вяртання на радзіму поле дзейнасці пачало звужацца, неўзабаве ў падпольную арганізацыю пранік правакатар, у сакавіку 1923 г. 43 падпольшчыкі з Маслоўскай на чале апынуліся за кратамі. У траўні 1923 г. у Беластоцкім судзе адбыўся «Працэс 45-ці». Цэнтральнай яго фігурай была Маслоўская, якую абвінавачвалі ў арганізацыі і кіраванні падпольнай арганізацыяй, супрацоўніцтве з беларускім штабам у Мерачы (Літва). Маслоўская прызнала, што прымала актыўны ўдзел у арганізацыі, аднак вінаватай сябе не лічыць. Урэшце была прыгаворана да 6 гадоў турмы. Зняволенне адбывала ў Беластоку і Варшаве. Адтуль дасылала на волю лісты і вершы. Як паэтка часта падпісвалася псеўданімам „Мурашка".

Дзякуючы высілкам савецкага Чырвонага крыжа ў Польшчы вызваляецца з турмы ў чэрвені 1927 г. Восенню выйшла замуж за Уладзіміра Карчэўскага. Доўгі час была беспрацоўнай. Сям'я жыла ў Гайнаўцы, а потым у Альпені на Палессі і ў Кодані над Бугам, дзе Вера была арганізатарам мастацкай самадзейнасці. Да настаўніцкай працы Карчэўскія вярнуліся пры савецкай уладзе. З восені 1939 г. працавалі ў Калантаях Ваўкавыскага павета, летам 1940 г. вярнуліся ў Агароднічкі, арганізавалі беларускую школу, працавалі ў ёй і ў час нямецкай акупацыі, пазней вучылі дзяцей таемна.

Пасля вайны з-за тэрарыстычных дзеянняў падполля Вера была змушана спыніць настаўніцкую працу ў Агароднічках і ў чэрвені 1946 г. выехала ў Жагань на Сілезіі. Тут арганізавала дзіцячы сад, якім кіравала пяць гадоў. У 1951 г. вярнулася ў Супрасль, дзе загадвала гарадской бібліятэкай, абіралася ў беластоцкую Павятовую раду. З верасня 1958 г. на пенсіі. Памерла ў Супраслі 23 студзеня 1981 г., пахаваная на мясцовых могілках.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ




Дызайн: Ігар Назаранка

Свята 25 Сакавіка традыцыйна адзначае дэмакратычная супольнасць Беларусі. У гэты дзень у 1918 годзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Дзякуючы гэтай падзеі, як сцвярджаюць гісторыкі, магчымае і само існаванне сённяшняй Рэспублікі Беларусь.

Дзень Волі святкуецца ў розных краінах свету і гарадах, дзе жывуць беларусы. У Беластоку свята арганізуецца намаганнямі Беларускага саюза ў Польшчы. Аднак прыйшоў час выйсці шырэй, па-за граніцы вялікіх мясцовасцей. На працягу двух апошніх гадоў 25 сакавіка ўрачыста адзначалі на самай польска-беларускай мяжы — у Кузніцы, дзе нарадзіўся выдатны патрыёт і змагар, першы прэм'ер-міністр БНР Язэп Варонка. Сёлета запрашаем на самы ўскраек Белавежскай пушчы — у Гайнаўку.

Мерапрыемства адбудзецца ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Пачатак у 17 гадзін 25 сакавіка 2016 года. Вядоўца — гісторык Яўген Янчук.

**У праграме:**

- Выступ прафесара Алега Латышонка, прысвечаны падзеям 1918 года і абвяшчэнню БНР, а таксама пачуем расповед пра выхадцаў з Падляшша, якія спрычыніліся да тых гістарычных часоў (Язэп Варонка, Мікола Дзямідаў ды іншыя).
- Паказ фільма аўтарства Радаслава Дамброўскага „Вольны", прысвечаны выдатнаму беларусу Юрыю Туронку.
- Канцэрт у выкананні Алега Кабзара.

**Шчыра запрашаем!!! Абяцаем добры настрой і святочную атмасферу!!!**

Дзень Волі арганізуецца, дзякуючы ініцыятыве групы мясцовых жыхароў ды ўраджэнцаў Гайнаўкі, а таксама неабыякавых людзей. Тэхнічная і медыйная падтрымка мерапрыемства: ВАШАНІВА — першая беларуская газета не на паперы, Тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва", Беларускае Радыё Рацыя.



# Дзень Волі 25 сакавіка 1918-2016

## ЗАПРАШАЕМ
**на святкаванні ў Беластоку**

**27.03.2016 (нядзеля)**

**8⁰⁰ Царква Агія Сафія ў Беластоку, вул. Травяста, 5 — Св. Літургія, пасля першай Літургіі — малебен за беларускі народ.**

**31.03.2016 (чацвер)**

**17⁰⁰ Кафэ „Zmiana Klimatu" вул. Варшаўская, 6.**

**У праграме м.інш: канцэрт беларускіх песень у выкананні дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, аўтарскі канцэрт барда Эдуарда Акуліна.**

**Запрашаюць:**
**Радыё Рацыя,«Ніва», АБ-БА, Беларускі саюз, Беларускае Гістарычнае Таварыства, БАС.**

# 27.03 — 02.04

**(22.03. – 20.04.)** Тыдзень добры для атрымання новых ведаў і набыцця новага вопыту (курсы, вучоба). Прыслухайся да свайго ўнутранага голасу. Перад тым як легчы спаць, пакладзі пад ножкі ложка лаўровы ліст, а пад падушку схавай невялікае круглае люстэрка і прамоў: «Як цемра і святло адлюстроўваюцца ў гэтым люстэрку, так адаб'ецца ў ім і мая будучыня». Прачнуўшыся схавай люстэрка ў зацішнае месца і захоўвай яго ў вялікай таямніцы і недатыкальнасці. Не разбі яго!

**(21.04. – 21.05.)** Прыйдзецца табе выконваць абавязкі кіраўніка. Да тваіх слоў будуць прыслухоўвацца, твае просьбы і жаданні будуць выкананы. Калі ў панядзелак падчас захаду сонца прышчыкнеш сабе палец — благое прадвесце, звычайна звязанае са стратамі і душэўнымі перажываннямі альбо ўшчамленнем у правах і турэмным зняволеннем. Схавай далонь з прышчыкнутым пальцам пад паху процілеглай рукі, і прымета страціць сваю негатыўную сілу.

**(22.05. – 22.06.)** Ва ўсіх справах маеш значны шанц на поспех. Каб яшчэ больш павысіць свае шанцы на поспех у справах, зрабі наступнае. Сядзь на разасланы на падлозе дыванок. Атачы сябе з чатырох бакоў жоўтымі падпаленымі свечкамі. Напішы чырвоным алоўкам на ружовай паперы сваё запаветнае жаданне. Падпалі паперу з чатырох кутоў ад кожнай свечкі. Падчас гарэння паперы вобразна ўяўляй сабе працэс выканання тваёй мары, звязаныя з гэтым падзеі і абставіны, паслядоўнае развіццё сітуацыі, учынкі і дзеянні навакольных людзей і ў фінале — саму сваю перамогу і поспех. Калі папера звернецца ў попел, змясці яе ў мяшочак з блакітнай тканіны, у які таксама насып сухой лаванды і пакладзі зрэзаную пасму сваіх валасоў. Павесь гэты мяшочак побач са сваім ложкам або насі яго на шыі на доўгім шнурку. Калі на працягу трох дзён твае мары не ажыццявяцца, то кінь мяшочак у складзенае з бярозавых пален вогнішча і яшчэ раз ствары ў сваім уяўленні карціну спрыяльнага заканчэння сваіх спраў.

**(23.06. – 23.07.)** З 27.03. будзеш усіх прыцягваць як магніт. Ва ўсіх справах маеш значны шанц на поспех. Светлая паласа ў тваім жыцці працягваецца. Даходы пачнуць павялічвацца. Засяродзься на будучых мэтах і шляхах іх дасягнення. Будзь актыўным і ініцыятыўным, але ўмей ісці на кампрамісы.

**(24.07. – 23.08.)** Калі ў цябе няма асабістага транспартнага сродку, то прыйшоў час задумацца аб яго набыцці. Надзейным кудменем для прадухілення паломак і аварый з'яўляецца пяро паўліна, якое трэба пакласці побач з заднім шклом, там, дзе звычайна ў машыне ляжыць аптэчка.

**(24.08. – 23.09.)** 27.03. будзеш раздражнены. Чакаюць цябе беспералынныя тэлефонныя званкі, нечаканыя госці і выпадковыя сустрэчы. Паспрабуй добра правесці час. Калі ілжывы гонар перашкаджае табе спыніць сварку з каханым чалавекам, зрабі першы крок да прымірэння.

**(24.09. – 23.10.)** Узбуджэнне і нецярпенне, з якімі ты гатовы фінансаваць любую ідэю, у канчатковым рахунку прынясуць табе сур'ёзныя страты. Калі маеш справу з буйнымі матэрыяльнымі сродкамі, падумай сем разоў, пакуль аддасі свае грошы ў чужыя рукі.

**(24.10. – 22.11.)** 27.03. ачаруеш кагосьці на даўжэй. Калі трапіш пад град, гэта папярэджвае аб небяспецы пазбаўлення пасады і працоўнага месца з-за інтрыг канкурэнтаў. Зацісні ў кулак некалькі градзін, каб яны расталі ў тваёй руцэ, і ўяві, як усе твае ворагі становяцца падатлівымі і нямоглымі. У канцы тыдня чакаюць цябе любоўныя спатканні

**(23.11. – 22.12.)** Штосьці будзе сур'ёзна залежаць ад твайго меркавання і рашэнняў. Не слухай чужых намоў. Выберыся ў падарожжа. Каб не мець цяжкасцей у дарозе і шчасна вярнуцца дадому, за дзень да адпраўлення ў шлях сходзі да пяці розных дарог і вазьмі з кожнай з іх па каменьчыку. Чатыры з іх пакладзі па кутах будынка, а пяты кінь перад парогам.

**(23.12. – 20.01.)** Тыдзень без асаблівых падзей і здарэнняў. Адкладзі на потым важныя рашэнні наконт асабістага жыцця, тыдзень таксама мала падыходзіць для заключэння якіх-небудзь саюзаў. Трапіць цяпер пад дождж — да канца года будзеш абаронены ад матэрыяльных няўдач.

**(21.01. – 19.02.)** 29.03. тваё сэрца заб'е мацней. Выдаткуй трохі часу на тое, каб зрабіць ураджанне на сваё асяроддзе: у далейшым гэта акупіцца. Добры час для атрымання новых ведаў, для наведвання якіх-небудзь курсаў і семінараў.

**(20.02. – 21.03.)** 29.03. лёгка прагоніш дэпрэсіўныя настроі. 31.03. здабудзеш нейкія лаўры ці патэнт. Выстраліць корак ад шампанскага! Адмоўся на гэтым тыдні ад прагулак у дзікіх месцах, будзь уважлівы і глядзі пад ногі. Праедзься з сябрамі ў адпачынак.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі рос пісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. невялікі лес у... Гайнаўцы = 31 _ 29 _ 30 _;
2. адтуліна ў вопратцы якую можна залатаць або зацыраваць = 10 _ 11 _ 7 _ 8 _ 9 _;
3. дзядзькава жонка = 20 _ 21 _ 22 _ 33 _ 34 _ 35 _ 36 _ 32 _;
4. шосты гук музычнай гамы = 18 _ 27 _;
5. дзяржава са сталіцай у Абуджы = 13 _ 12 _ 17 _ 16 _ 4 _ 14 _ 19 _;
6. цягнецца за іголкай = 25 _ 26 _ 23 _ 24 _;
7. беларускі дадатак да скрыпкі Францішка Багушэвіча = 1 _ 2 _ 37 _ 28 _;
8. спадарожнік у сонечнае надвор'е = 5 _ 3 _ 15 _ 6 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Крыга, катапульта, карэта, чутка, яма, моладзь, абарыген, каліва, сяло, камора.

**Рашэнне: Вучы гультая не молатам, а голадам.**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (36)

Я намерылася палічыць усе ручнікі ў Свята-Параскеўскай царкве, якія атулялі іконы. Іх неверагодная колькасць збівала з панталыку, ірваўся лік. Некалькі разоў мне пашчасціла дайсці да пяцідзесяці, каб зразумець, што статыстыка не іграе тут ніякай ролі.

Прамаўлялі колеры і вышыўка тканін з перавагай чырвані, фіялету і блакіту. Інтэр'ер сам па сабе заяўляў пра неўтаймаваную радасць уваскрэсення. Разнавіднасць і інтэнсіўнасць колераў прыводзіла на думку Тыбет...

Фатографы першапраходцы зафіксавалі Палессе ў чорна-белых колерах. У выпадку сакральных аб'ектаў, цікавіў іх знешні выгляд будынка і бліжэйшае атачэнне. Марочнянская царква, калі глядзець на яе звонку і здалёк, быццам са старых фатаграфій. Як не цікава, гістарычны, характэрны для Палесся выгляд яна набыла пасля нядаўняга рамонту. Царкву аднавілі за кошт прыватных спонсараў пад 200-гадовы юбілей, які адзначалі ў 2015 годзе. У прысутнасці айца Паўла Дубянца высмакаваная рэстаўрацыя гістарычнага будынка не здзіўляла. Не магло быць інакш. Пасля таго, калі ўсярэдзіне я пабачыла каваную жырандолю, якую падпальвалі васковымі свечкамі, і паслухала архаічных спеваў на хорах, нішто ўжо не здзіўляла...

Карацей кажучы, нідзе раней я не бачыла такой царквы, у якой жыва, гарманічна і свядома перакліклаліся старажытнасць з сучаснасцю.

Марочнянскі настаяцель — гісторык хрысціянства і адначасова этнограф. Ён спрычыніўся да ўзнікнення ўнікальнага краязнаўчага музея ў мясцовай школе. Пойдзем туды за момант.



Бацюшка Паўло Дубянец

* * *

Гэта не так, што мяне нішто ўжо не здзіўляла. Наадварот, што крок на вока, пад ногі або ў рукі пападала штосьці дзіўнае. Паколькі па дарозе я паспела наўзірацца на самаробныя машыны, якія са свістам апярэджвалі па выбоістых дарогах маршруткі, я не звярнула ўвагі на зношаны грузавік «ЗіЛ», які самотна стаяў ля сцяны царквы.

* * *

Так ці інакш, гісторыя была з роду тых, якія падбіваюць лёгкасць у касцях, наклікаюць натхненне. Сто гадоў таму гэтую лёгкасць прыкмеціў Язэп Драздовіч. Мастак наведаў якраз Зарачанскі раён, дзе зараз прыналежыць Марочнае. Праўда, у той час Зарэчнае было вядомае пад назвай Пагост Зарэчны. Сярод захаваных малюнкаў шмат капліц і цэркваў, якія здаліся беларускаму мастаку «самотнымі ў сваёй адзіноце». Язэп Драздовіч з'явіўся на Палессі па рэкамендацыі Антона





Непрыкметнасць машыны падбіваў блакітны колер. Здавалася, што ўсё тут на месцы, як трэба.

— Гэтую машыну мы адкупілі ад калгаса, — кажа бацюшка, — можна сказаць, што за сімвалічную цану. Больш грошай трэба было ўкласці ў рамонт, на прыстасаванне да новых задач. Зараз усе задаволеныя, калі можна сказаць такое слова ў выпадку рытуальных паслуг.

— Вы пра што?

— Гэты «ЗіЛ» служыць нам у якасці катафалка. Калі ў прыходзе пахавіны, на ім перавозяць труну з нябожчыкам у царкву або на могілкі. Людзі не капрызнічаюць. Ды ці адправіш элегантны катафалк на нашы бездарожжы? Ён жа за першым паваротам зломіцца. А так, больш зручна і танна. Смерць гэта не вяселле, тут лішніх феерверкаў не трэба...

Я паспрабавала ўявіць сабе апошні шлях на блакітным грузавіку і ад самога ўяўлення ў грудзях зрабілася цёпла. Не ведаю, ці гэта прамовіла сімволіка колеру ці практычная мудрасць туземцаў.



У марочнянскім музеі

Луцкевіча. Яго задачай былі збор і вывучэнне народных касцюмаў палешукоў. Шмат прац узнікла ў недалёкім ад Марочнага сяле Сернікі. Плён экспедыцыі меў папоўніць экспанаты Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча...

З сучаснай перспектывы працы беларускага мастака здаюцца цудам! Мяне найбольш захапляюць малюнкі стагоў і драўляных будынкаў сярод пясчаных вуліц. Іх містэрная, геаметрычная форма прыводзіць на думку постмадэрную архітэктуру. Апошняя справа таксама здалася знаёмай.

На нашым Падляшшы вялікае значэнне надавалася таксама дакладнасці, з якой складалі стог, абарог, капіцы ці сена на возе. Да гэтага дзеяння допускаліся толькі спрактыкаваныя асобы, з пачуццём дакладнасці і перспектывы. Пры складанні стагоў не магло быць выпадковасці. Кожны недахоп у геаметрыі мог скончыцца «будаўнічай» катастрофай. Не меншую ролю іграла эстэтыка. Найменшыя прыклады неахайнасці людзі адразу бралі на языкі. Словам, з саломай не было ў нас жартаў...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960